ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

10 ВЕРАСНЯ 1993г № 36 (3706) Кошт 10 руб.


## «ГЭТАЯ ХВАЛЯ МОЖА ЗАХЛІСНУЦЬ І САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ...»

*Расціслаў ПЛАТОНАЎ: «З сярэдзіны 20-х гадоў, калі ў працэсе «рашаючага павароту ва ўсёй палітыцы» пачалося зрошчванне органаў дзяржаўнай бяспекі з вышэйшым партыйным кіраўніцтвам, АДПУ рэгулярна інфармавала ЦК КП/б/Б аб становішчы ў рэспубліцы, настроях грамадскасці, нярэдка з канкрэтнымі рэкамендацыямі і нават патрабаваннямі, адрасаванымі першай асобе рэспублікі, інфармацыі і даведкі гэтыя слаліся пад грыфам «Зусім сакрэтна»...*

**СТАРОНКІ 5, 12**

## ПРЫВІДНЫ КАРАБЕЛЬ ДЗЯЦІНСТВА

*«Вясёлку» чытае паэт Алесь БАДАК*

**СТАРОНКІ 6—7**

## ДВА КРЫЛЫ

*Новыя вершы Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ і Віктара ШНІПА*

**СТАРОНКА 8**

## ПАЎЛІНА, ПАЎЛІНКА, ЖУРАВІНКА

*Лёс Паўліны МЯДЗЁЛКІ*

**СТАРОНКІ 10—12**

## ПАКУТНІЦКІ КРЫЖ АЙЦА ІАСАФАТА

*Міхась ПАЎЛАЎ: «Справа Уніі была працягам справы Вітаўта, які рабіў пэўныя захады дзеля незалежнасці літоўскага /у сэнсе — беларускага/ праваслаўя ад клеру Масковіі».*

**СТАРОНКІ 14—15**




# ДВА СВЯТЫ

«Вітаем нашчадкаў аршанскіх ваяроў», «Жыве беларускае войска!» — з такімі плакатамі прыйшлі 5 верасня на пляц Незалежнасці сябры Задзіночання беларускіх студэнтаў, каб павітаць тых, для каго ALMA MATER — вайсковыя ВНУ. У той дзень курсанты дзвюх Мінскіх вышэйшых ваенных вучэльняў — агульнавайсковай і інжынернай — прымалі прысягу на вернасць Беларусі. Але арганізатарам вайсковага мерапрыемства такое ўмяшанне ў іхні сцэнарый падалося недапушчальным. Плакаты павыхоплівалі з рук і тут жа, на вачах у тысяч гледачоў, знішчылі. Такі ўрок патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны атрымалі ў гэты дзень будучыя афіцэры...

Даўно заўважана, што бальшавікі здольныя сумяшчаць несумяшчальнае. Так і зараз. Курсанты прымаюць прысягу на вернасць Беларускай дзяржаве і ў гэты момант на іхніх вачах знішчаюцца лозунгі, што ўхваляюць Беларускае войска і заклікаюць шанаваць славу продкаў.

Варта нагадаць, што гэтая праява дзікунства адбывалася на вачах Станіслава Шушкевіча, які вітаў курсантаў ад імя вярхоўнай улады краіны. Вітаў прысутных на беларускай мове, а вось міністр абароны — у асноўным на дзяржаўнай мове Расійскай Федэрацыі.

Свята 5 верасня праходзіла па сцэнарыі, распрацаваным... БНФ і БЗВ. Менавіта так. Бо афіцыйная прысяга на

*(Працяг на стар. 3)*

Кола дзён

***Верасень разварушыў палітычнае жыццё на абшарах былога СССР. З новымі сіламі дзяржаўныя дзеячы аднавілі ўзвядзенне «даўгабуду» пад назовам СНД. Новым падмуркам для будучага аб'яднання стала пагадненне аб «рублёвай зоне». Просты пералік краін, якія яго падпісалі — Расія, Беларусь, Арменія, Узбекістан, Казахстан і Таджыкістан, — выклікае глыбокі скепсіс адносна перспектыў новаўтварэння. У гэтай кампаніі ў кожнага свае інтарэсы і прытым — часовыя. Расію, зразумела, найбольш вабіць Беларусь, як «акно ў Еўропу». Беларускаму ж ураду зараз — хоць бы дзень пратрымацца ды ноч выстаяць... А там — трава не расці.***

## КАПІТУЛЯЦЫЯ ТЫДНЯ

7 жніўня беларуская дэлегацыя падпісала ў Маскве пагадненне «Аб практычных мерах па стварэнні рублёвай зоны новага тыпу». Згодна яму агульнай валютай у шасці дзяржавах, што падпісалі пагадненне, будзе расійскі рубель, эканамічную і грашова-крэдытную палітыку гэтых дзяржаў будзе каардынаваць Цэнтральны банк Расіі, які і будзе друкаваць грошы, межы будуць адкрытымі, без мытняў... Практычна, падпісаўшы гэтае пагадненне, беларускі ўрад падпісаў прыгавор суверэнітэту, незалежнасці сваёй дзяржавы. Спадзяёмся, аднак, што эйфарыя ад саюза з Расіяй хутка пройдзе, і, адпакутаваўшы яшчэ колькі гадоў, беларусы зразумеюць нарэшце, што адзіна правільны шлях паказваюць нам сёння Польшча і краіны Прыбалтыкі, якія, узяўшы кірунак на незалежнасць, за год пазбавіліся прагрэсіруючай інфляцыі і энергетычных крызісаў, дзякуючы ўвядзенню нацыянальных валют і адмежаванню мытнямі ад «вялікага суседа». Толькі ў чым правініліся беларусы перад Богам, што ім дадзены гэтакі пакутніцкі лёс? Чаму, прыгадаем У.Караткевіча, гэтай самай лепшай у свеце зямлёю кіруе самае горшае начальства?..

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

Расія і Украіна ніяк не падзеляць між сабою Чарнаморскі флот. На мінулым тыдні разгарэўся чарговы скандал, які ледзь не каштаваў Л. Краўчуку прэзідэнцтва. Але своечасова былі прыняты меры: словы пра перадачу Расіі ўкраінскай часткі Чарнаморскага флоту за пастаўкі нафты і газу — узяты назад і шум заціх. Беларусь, як і іншыя «немарскія дзяржавы», займае ў гэтай гісторыі пазіцыю назіральніка, не прэтэндуючы на пэўную частку не толькі ваеннага, але і грамадзянскага флоту. Не патрабуе яна і кампенсацыі свайго ўкладу ў іх стварэнне. Нашым суседзям вельмі прыемна мець такога партнёра. Добра, што пры дзеляжы чыгуначнага транспарту яны пакінулі нам вагоны і цеплавозы. Не далі б — мы б зноў прамаўчалі.

## ЭКСКУРСІЯ ТЫДНЯ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч зрабіў рабочы візіт у Нямеччыну, у гарады Дзюсельдорф і Патсдам. Пра вынікі яго можна сказаць словамі журналіста «Звязды»: гэта — «невялікі, але неабходны крок да збліжэння нашых краін». Ад сябе дададзім: такія «важы», якія пераўтвараюцца ў лёгкія прагулкі, аўтарытэту нашаму лідэру не прыбаўляюць.

## СВЯТА ТЫДНЯ

Дзень беларускай вайсковай славы, нягледзячы на нялюбасць і няміласць да яго збоку наменклатуры, усё ж адбыўся і прайшоў на славу. Падрабязна пра яго расказваюць нашыя карэспандэнты на гэтых старонках. Мы ж вылучаем свята з падзей мінулага тыдня, каб яшчэ раз падкрэсліць яго значнасць, вагу і адметнасць.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь павіншаваў нафтавікоў і газавікоў краіны з прафесійным святам — Днём работнікаў нафтавай і газавай прамысловасці. Гэтага свята ў пераліку зацверджаных Вярхоўным Саветам таксама няма, яно засталося ў спадчыну ад былога СССР і пра яго, як і пра іншыя прафесійныя святы, што адзначаліся раней у кожную нядзелю, ужо сталі забываць. Разумеем жаданне ўрада падтрымаць нафтавікоў і асабліва нафтаперапрацоўшчыкаў у цяжкія гадзіны. Але крыўдна, скажам, за рыбакоў, якіх урад зусім нядаўна забыўся павіншаваць.

## ПУБЛІЦЫСТ ТЫДНЯ

Двойчы на гэтым тыдні нагадаў пра сябе добра вядомы на Беларусі і ў суверэннай і незалежнай Расіі «публіцыст ленінскай школы» Іван Іванавіч Антановіч. Спачатку ў «Звяздзе» ён «без лішніх эмоцый, але пільна» прыгледзеўся да Першага з'езда беларусаў свету, а потым у «Рэспубліцы» гэтаксама прааналізаваў пазіцыі грамадскіх рухаў і партый /праўда, чамусьці зацыкліўся выключна на БНФ/. «Грунтоўнасць» /у першым выпадку/ і «обстоятельность» /у другім/, а таксама ментарскі, самазадаволены, павучальны тон доктара філасофскіх навук і прафесара сапраўды ўражваюць. І — прымушаюць зірнуць на каляндар, каб пераканацца, што на двары 1993-і, а, скажам, не 1986 год.

## КАНФУЗ ТЫДНЯ

«Звязда» пачала публікацыю мастацка-дакументальнай аповесці «Станіслаў Шушкевіч». Як бы ні пераканаўча выглядалі запэўніванні і апраўданні аўтараў пра заказ з-за мяжы на такую кнігу, відавочна, што час яе яшчэ не прыйшоў. Не настолькі трывалае становішча спікера ў парламенце, не такі вялікі ягоны аўтарытэт там жа,каб спакушацца на танную рэкламу, якая найчасцей прыносіць палітыкам толькі шкоду. Таму — хай бы «спроба пяра» засталася толькі спробай, так бы мовіць, хатнім альбомам. Да пары, да часу.

Кола дзён

З нагоды

# БУДЗЕМ ПАВАЖАЦЬ КАНСТЫТУЦЫЮ

***Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце, дэмакратычныя партыі і рухі неаднойчы крытыкавалі ўрад за ягоную палітыку манапалізацыі грамадскай думкі, імкненне кантраляваць сродкі масавай інфармацыі, скарыстанне метадаў палітычнага і эканамічнага ўціску ў адносінах да дэмакратычных выданняў і асобных журналістаў. Гэтай жа праблеме была прысвечана і нядаўняя заява групы дэпутатаў апазіцыі БНФ. С.Паваляеў, загадчык аддзела друку, радыё і тэлебачання Саўміна, выступіў у «Народнай газеце» з афіцыйным абвяржэннем. Абвяргаць відавочныя факты — справа няўдзячная, але т.Паваляеў на падзяку, мабыць, і не разлічвае. Да таго ж, нервуецца вельмі...***

Ягоная публікацыя мае назву «Вот такая «ідэялёгія». Яна, як і ўсё, што выходзіць з нетраў Саўміна, — на рускай мове. Відавочна, што загадчык аддзела друку, радыё і тэлебачання дзяржаўнай мовы сваёй краіны не ведае і ведаць не збіраецца. Толькі два словы ў тэксце беларускія — ідэялёгія і гарбата, і тыя абразліва ўзяты ў двукоссе. Так звычайна робяць, калі карыстаюцца словамі замежнымі, якія немагчыма адэкватна перакласці на сваю мову, альбо калі, так бы мовіць, у культурным тэксце скарыстоўваюць блатны жаргон.

Дарэчы, наконт культуры... Я не ведаю біяграфіі т.Паваляева, але калі б паспрабаваць скласці ягоны жыццяпіс, зыходзячы з асаблівасцяў ягонага літаратурнага стылю, дык можна прыйсці да высновы, што памянёны загадчык аддзела да працы ў ведамстве т.Кебіча «канал срок» дзесьці «на зоне» і там вывучыўся «ботать по фене». Чаго варты такі выраз: «Кто вам, господа хорошие, поверит, тем более, что народ уже оборзел от политического словоблудия!» Што тут сказаць? Сапраўды, «оборзел»...

Сэнс афіцыйнага адказу т.Паваляева дэпутатам апазіцыі можна звесці да аднаго сказа /з якога паважаны загадчык і пачынае свой «адлуп»/: «За что я люблю китайцев — так это за термосы». Так і атрымліваецца: яму пра манапалізацыю прэсы, а ён — пра кітайцаў і тэрмасы. Ды яшчэ абураецца: «Честно говоря, уже надоело объяснять, что именно правительство выступало со всеми инициативами, направленными...»

Так і хочацца запытаць, у чым праблема? «Надоело»? — ідзі з пасады. У нас, дзякуй Богу, не прыгон і не сталіншчына, каб чалавека на працы гвалтам трымаць. І яшчэ нагадаю, што ўрад — гэта выканаўчая ўлада. І ягоны клопат — не «выступать с инициативами» /ёсць каму выступаць/, а дзейнічаць. У інтарэсах нацыі і дзяржавы. На тое і ўлада. Выканаўчая.

Прыгадаў у сваім «адлупе» т.Паваляеў і нашу газету. Ці, ягонымі ж словамі гаворачы, «походя лягнул». «Газета «ЛіМ», симпатии которой монопольно очерчены, получает при декоративном тираже миллионные дотации государства!»

Па-першае, гэтыя «миллионные дотации» не ідуць ні ў якое параўнанне з датацыямі, што выдаткоўваюцца на, скажам, «Советскую Белоруссию». Па-другое, мы маем права сцвярджаць, што падчас падпісной кампаніі «ЛіМ» быў падвергнуты дыскрымінацыі. Рэдакцыя атрымлівала дзесяткі лістоў з адным пытаннем: «Як падпісацца на «ЛіМ»? Лісты з Беларусі, з блізкага і далёкага замежжа. Большая колькасць асобнікаў газеты магла б быць і ў розначным продажы. Летам мне давялося быць у Браславе. У гэты горад «ЛіМ» папросту не паступае. Як казалі кіяскёры, апошні раз газету «Літаратура і мастацтва» яны бачылі летась ці то ў снежні, ці то ў студзені. Між тым, «Мы и время», «Политика. Позиция. Прогноз» і іншыя «левыя» выданні ідуць у «глыбінку» бесперапынна.

Зрэшты, дзіўна было б патрабаваць ад «ЛіМа» мільённага накладу. «Літаратура і мастацтва» — газета культурнай эліты, а эліты шмат не бывае. «Літаратура і мастацтва» — такая ж культурная каштоўнасць, як Купалаўскі тэатр альбо Дзяржаўны мастацкі музей. І тое, што ўрадавыя чыноўнікі пагражаюць «прыкрыць» газету як «нерэнтабельную», сведчыць аб глыбіні духоўнага крызісу нашага грамадства і адначасова аб інтэлектуальным узроўні выканаўчай улады ў Рэспубліцы Беларусь.

І апошняе. Пра нашы «монопольно очерченные симпатии». Мы разумеем плюралізм не як свабоду ад маралі і сумлення, а менавіта як цывілізаваную форму дыскусіі. Мы, у адрозненне ад іншых выданняў, не друкуем на сваіх старонках абразлівыя для беларускай дзяржавы і нацыі опусы. Нашы аўтары не абражаюць Незалежнасць, дзяржаўныя Сцяг і Герб, не заклікаюць да грамадзянскай вайны ў імя ўсталявання «государственного двуязычия». Калі гэта называць «монопольно очерченными симпатиями», дык т.Паваляеў мае рацыю. У гэтым сэнсе пазіцыя газеты сапраўды акрэслена выразна і адназначна.

Дык, можа, т.Паваляеў проста недакладна выказаў сваю думку? Можа, ён хацеў сказаць, што газета «ЛіМ» атрымлівае дзяржаўную датацыю, нягледзячы на тое, што выходзіць на беларускай мове і патрабуе выканання палажэнняў Канстытуцыі Беларусі, якія абвяшчаюць нашу краіну суверэннай і нейтральнай? Альбо так: дзяржава фінансуе выданне газеты «ЛіМ», хоць Саўмін ставіцца да незалежнасці Беларусі без пашаны?

Зрэшты, хацелася б удакладніць: а якую функцыю выконвае ў дзяржаўнай структуры Беларусі т.Паваляеў і ўзначальваемы ім аддзел друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь? Ёсць адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета, ёсць адпаведныя міністэрствы. А вось упраўленні ды аддзелы Саўміна — гэта тыя ж колішнія ўпраўленні да аддзелы ЦК, якія дубліравалі дзейнасць дзяржаўных органаў і былі фактычнай уладай на Беларусі да жніўня 1991 года.

У Канстытуцыі Беларусі нічога не сказана ні пра т. Паваляева, ні пра ягоны аддзел, ні пра ўпраўленне, куды ўваходзіць гэты аддзел. Дык мо будзем паважаць Канстытуцыю?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Памяркуем

# ЦІ СКОРА?

«Скормлена з-пад капыта» — такая графа існавала ў справаздачных ведамасцях па сельскай гаспадарцы, і цаны гэтай графе не было ў разгар кукурузнай кампаніі. На гектар плошчы можна было выдумляць любую колькасць тон зялёнай масы, а тым каровам мо толькі раз па полі прайсці і давялося. Горш было з зернем. На зерне кукуруза ў нас практычна не выспявала, але паказчык існаваў, і нічога не заставалася, як зноў браць лічбу з галавы.

Пры гнілых падрубах савецкая дзяржава знаходзіла выйсце ў тым, каб бесперапынна падбельвацца і падрумяньвацца, яна дбала выключна пра выгляд фасаду. Скажэнне інфармацыі ва ўсіх сферах дзейнасці, фіктыўная статыстыка, звычка да прыхарошвання ва ўсім — ад істотнага да самага дробнага /колькасці двоек за чвэрць/, няшчырыя сходы, «паказушныя» мерапрыемствы — усё было нормай і правілам тагачаснага ладу жыцця. Таму як бы не існавала аварый, катастроф, карупцыі, дзіцячай смяротнасці, жабрацтва і многага іншага. Колькасць ахвяр пры аварыях не проста так замоўчвалася: пры пэўнай лічбе рэагавалі міжнародныя арганізацыі /Чырвоны Крыж, напрыклад/, што было непажадана. Хлуслівыя даклады рабіліся нават з трыбуны ААН. Ды і чаму «нават»? Там перш за ўсё належала строіць добрую міну пры благой гульні.

Татальная, усеабдымная мана выхавала новы тып кіраўніка, чалавека, які служыць не краіне і не справе, а вышэйстаячаму начальству і ўласнай выгадзе. Тып гэты унікальны і аналагаў у свеце, мабыць, не мае /маю на ўвазе свет несацыялістычны/. Коратка абмалюю яго партрэт. Перш за ўсё ён трапіў на пасаду дзякуючы спецыфічнаму падбору кадраў, не столькі па здольнасцях і кваліфікацыі, колькі па партыйнай ці камсамольскай пратэкцыі. Яго далейшае прасоўванне па службе залежала выключна ад асабістых кантактаў, на іх стаўка і рабілася. Вынік працы — штосьці другаснае, тут заўжды дапаможа пусканне пылу ў вочы ды ліпавая справаздачнасць. Такія паняцці, як сумленне і гонар для савецкага чыноўніка — пусты гук, што

# ДВА СВЯТЫ

(Пачатак на стар. 1)

пляцы Незалежнасці праводзілася «в пику» запланаванай дэмакратамі на 8 верасня сімвалічнай клятве вайскоўцаў запасу на вернасць Бацькаўшчыне. Не доўга думаючы, генералы з міністэрства проста цалкам перанеслі ў свой сцэнарый усё, што мелася быць на святе Беларускай вайсковай славы — прамовы, прысяга, шэсце, ускладанне кветак да абеліска на плошчы Перамогі, літаратурна-музычная частка. Усё рабілася з размахам, які дэмакраты сабе дазволіць не могуць, бо расплачваюцца ўласнымі грашыма. Так ці інакш, але дзякуючы БНФ і БЗВ курсанты мінскіх ваенных вучэльняў запомняць гэты дзень на ўсё жыццё, і горад меў нечаканае свята. А яно не лішняе ў наш смутны час, час заклапочаных твараў і нервовых рухаў.

Я б сказаў нават, што першая дзея Свята беларускай вайсковай славы прайшла 5 верасня, а 8 — ягоная кульмінацыя.

Нашы чытачы ведаюць, што святкаванню 479-й гадавіны Аршанскай перамогі папярэднічалі досыць драматычныя падзеі. Думаю, пэўныя арганізацыі і ўстановы нават адпрацоўвалі варыянты з праліццём крыві, каб дыскрэдытаваць дэмакратаў і беларускую ідэю.

Спачатку гарадскія ўлады свята дазволілі, а потым узняўся вэрхал ва ўрадавых колах. Міністэрства абароны выступіла з заявай аб сваёй нязгодзе, хоць згоды ягонай ніхто і не пытаўся. І ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам пытацца не абавязаны. 10 жніўня на пасяджэнні гарвыканкама стаяла пытанне аб забароне свята ўвогуле, але, праўда, абмежаваліся забаронай сімвалічнай прысягі вайскоўцаў запасу і шэсця сяброў БЗВ. На кіраўніцтва горада рабіўся ўціск збоку ўрадавых структур, пра што сведчыць выступленне на тым пасяджэнні т.Гайдукевіча /ён і ў Саўміне пасаду мае, і «Народное движение Белоруссии» ўзначальвае/. Ён прыгразіў, што святкаванне выкліча канфрантацыю ў грамадстве, і што гэта можа не спадабацца «воинам-интернационалистам» /«афганцам», прасцей кажучы/. А неўзабаве і самі «воины-интернационалисты» выступілі з адпаведнай заявай у камуністычнай цыдулцы «Мы и время».

Міністэрскі аргумент наконт непатрэбнасці і нават шкоднасці сімвалічнай прысягі не пераконвае. Вайскоўцы наяўнай службы Беларусі прысягнулі, а вайскоўцы запасу па-ранейшаму звязаны прысягай з неіснуючай дзяржавай, альбо з Расійскай Федэрацыяй /бо РФ абвясціла сябе пераемніцай СССР/. І ніхто ва ўрадзе не рупіцца, каб пакласці канец гэтаму абсурду. Можа, камусьці трэба «пятая калона»?

12 жніўня на пляцы Незалежнасці адбыўся выбух і некаторыя сродкі масавай інфармацыі паспяшаліся абвінаваціць у падрыхтоўцы і здзяйсненні гэтага тэрарыстычнага акта Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Прэс-цэнтр БЗВ у адказ распаўсюдзіў заяву пра тое, што аб запланаванай правакацыі супраць БЗВ, пры чым з выкарыстаннем зброі, кіраўніцтву Згуртавання даўно было вядома з вартых даверу крыніц. І калі хто і мог на гэтае злачынства рашыцца, дык толькі спецслужбы з блаславення ўрадавых структур. Пра гэта ўскосна сведчыць тое, што пасля правалу правакацыі распачалася «аперацыя прыкрыцця»: адказнасць за выбух бяруць на сябе нейкія міфічныя арганізацыі і асобы. КДБ і МУС у гэтай сітуацыі чамусьці дэманструюць сваю няздольнасць /альбо нежаданне?/ знайсці злачынцаў, як і год назад, калі перад Домам урада невядомымі быў спалены велізарны бел-чырвона-белы сцяг. Полымя, мабыць, бачылі нават з плошчы Перамогі, а побач ніхто нічога не заўважыў.

Асобна трэба сказаць пра ўдзел ва ўрадавых гульнях вакол святкавання Дня беларускай вайсковай славы рэзінтуры ўсходняга суседа. Калі карыстацца футбольна-хакейнай тэрміналогіяй, пасол Расіі т.Сапрыкін быў «гуляючым трэнерам». Не без ягонага ўмяшання забаранілі святкаванне ўлады Віцебска. У «Докладной записке» М. Мясніковічу Г. Данілаў спасылаецца на выказаныя ў тэлеінтэрв'ю меркаванні пасла, на ягоную негатыўную ацэнку маючага адбыцца святкавання як на ісціну ў апошняй інстанцыі. Хоць у цывілізаваным грамадстве гэта называецца ўмяшаннем ва ўнутраныя справы дзяржавы, і калі б паміж Беларуссю і Расіяй былі цывілізаваныя стасункі, назаўтра б пасля тэлеінтэрв'ю пасол збіраў бы клункі і заказваў па тэлефоне білет на цягнік у бок радзімы.

Гарадскія ўлады ціснулі на дырэкцыю Опернага тэатра, каб тыя разарвалі пагадненне з арганізатарамі святкавання аб арэндзе пляцоўкі, адключылі ім электрычнасць. А дырэкцыя пацікавілася, ці аплаціць гарвыканкам 3 мільёны няўстойкі, калі БЗВ і БНФ пададуць справу ў суд. Гарадскія ўлады грошы пашкадавалі...







8 верасня Свята беларускай вайсковай славы прайшло, як і планавалася. Сябры БЗВ усклалі кветкі да абеліска на плошчы Перамогі і прайшлі калонамі пад сцягамі і харугвамі міма Міністэрства абароны да Опернага тэатра. Была кароткая, так званая, афіцыйная частка. Яе вёў В. Вячорка. Выступілі З. Пазняк, гісторык П. Лойка, народны дэпутат В. Голубеў, старшыня БЗВ падпалкоўнік М. Статкевіч. Над плошчай гучалі ўрачыстыя словы Вайсковай прысягі, гімн-малітва «Магутны Божа». Многім, відаць, запомніліся словы З. Пазняка пра тое, што на сцягах беларускіх ваяроў з аднаго боку была выява Пагоні, а з другога — Багародзіца, што менавіта высокая духоўнасць дапамагала нам перамагаць у бітве пад Оршай і ў іншых слаўных бітвах.

Святочны канцэрт традыцыйнай беларускай музыкі быў кароткі, але яскравы. Ён складаўся з твораў народных і духоўных. А закончылася святкаванне вялікім рок-канцэртам, дзе бралі ўдзел лепшыя гурты Беларусі. Прынамсі, з ліку лепшых. Уражвала прафесіяналізмам мастацкая аздоба плошчы.

Кажуць, каб свята атрымалася, трэба, каб гледачы і ўдзельнікі разумелі адзін аднаго, былі аб'яднаны адным настроем. 8 верасня на Свяце беларускай вайсковай славы было менавіта так.

**П.В.**

*На здымках: падчас святаў 5 і 8 верасня.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Паварот

## НА «РАЗЛІЎ» — НЕ ТОЛЬКІ ПІВА

Мінгарсавет /і, адпаведна, Мінгарвыканкам/ узялі на сябе смеласць пераадолець — прынамсі, у межах сталіцы, Менска, — абмежаванні на гандаль нафтапрадуктамі, устаноўленыя Саўмінам і Камітэтам па нафце і хіміі. Як вядома, зацверджаная імі манаполія на гандаль нафтапрадуктамі давяла рэспубліку да «паліўнага» голаду: сярод спелага жыта стаялі незапраўленыя камбайны... Гарадскія ўлады сталіцы вырашылі **даваць дазвол** на рознічны гандаль нафтапрадуктамі НЕДЗЯРЖАЎНЫМ /чытай, камерцыйным/ структурам, у вызначаных ва ўстаноўленым парадку месцах. Першую ліцэнзію на такі гандаль атрымоўвае акцыянернае таварыства «Кросны» /пляцоўкі для продажу бензіна і нафтапрадуктаў знаходзяцца ў Менску на выездзе на Брэсцкую шашу з праспекта Дзяржынскага і ля паварота з кальцавой шашы на вуліцу Казінца/.

**Ул. інф.**

Адгалоскі

## РОЗНІЦА БУДЗЕ ПАВЯЛІЧАНА?

Наменнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны А. Трусаў — даўні лімаўскі аўтар і часты госць рэдакцыі. У часе адной з ягоных адведак «ЛіМа» зайшла гаворка аб тым, што наш тыднёвік не заўсёды можна набыць у кіёску, што паступленне яго ў розніцу вельмі абмежаванае. Алег Анатольевіч не забыўся на гэтую гаворку і звярнуўся ў Міністэрства інфармацыі Беларусі з просьбаю аб павелічэнні рознічнага тыражу «ЛіМа». Не так даўно ён пераслаў нам ліст першага намесніка міністра інфармацыі С. Нічыпаровіча, атрыманы ў адказ на сваю просьбу. У лісце гаворыцца:

«Ваша просьба аб павелічэнні продажу газеты «Літаратура і мастацтва» абмеркавана на нарадзе дырэктараў прадпрыемстваў «Белсаюздруку»... Вырашана па кожным раёне пераглядзець заказы на беларускамоўныя перыядычныя выданні, у тым ліку на газету «Літаратура і мастацтва». Абагульненне гэтых заказаў і кантроль за іх выкананнем ускладзены на Рэспубліканскае аптова-рознічнае прадпрыемства «Белсаюздрук» /дырэктар Юрый Валянцінавіч Хмыроў/.

Адначасова кіраўнікам прадпрыемстваў «Белсаюздруку» даручана распрацаваць і ўкараніць сістэму матэрыяльнага і маральнага заахвочвання работнікаў магазінаў і кіёскаў за лепшыя вынікі працы па распаўсюджванні беларускамоўнага друку».

цалкам заканамерна пры існуючых парадках і скажонай сістэме каштоўнасцей. «Скарміць з-пад капыта» ён здольны цэлую дзяржаву, бо прывык да беспакаранасці, а законам і правам проста пагарджае. Натуральна, ён сядзіць у крэсле да той пары, пакуль не ўтворыць чагосьці скандальнага або канчаткова не заваліць справу, тады яго перавядуць на спакайнейшае месца /куды-небудзь у прафсаюз/. Быў і такі варыянт: яго абыдзе на дыстанцыі не менш порсткі таварыш або «паляціць» высокі прэстэж, і тое і другое пагражае паніжэннем.

Увогуле не было б патрэбы для падобнага «гістарычнага» экскурсу, калі б дзень учарашні не меў працягу ў дні сённяшнім: у пераважнай большасці Беларуссю кіруе старая, загартаваная ў барацьбе за выжыванне гвардыя. Яна гойсае па далёкім замежжы /не каб у блізкага павучыцца — краін Балтыі, напрыклад, як змагацца за самастойнасць/, выдаткоўвае мільёны на сумніцельныя гандлёвыя здзелкі, ва ўсім па-ранейшаму садзейнічае «сваім» людзям, мяняе шыльды на ўстановах, не мяняючы сутнасці і, здаецца, надалей збіраецца жыць па старых правілах, г. зн. ні за што не адказваючы персанальна. /Сказанае не азначае, заўважу у дужках, што не было і няма вартых начальнікаў/.

Такі вось адметны штрышок: у разгар мінулагодніх лясных пажараў галоўны эколаг Саўміна, выступаючы па радыё, наракала на тое, што ад нас у Польшчу вывозяцца чарніцы. Што ягаднік паўсюдна выгарае разам з лесам і хутка не будзе чаго вывозіць — засталося без увагі. Я разумею, што дзяржаўная служба экалогіі — не пажарная каманда, але каб так абстрагавацца ад балючага!..

Яшчэ адзін факт, свежанькі, гэтага лета. Адпраўлена назад гуманітарная дапамога з Англіі — фургон ціраксіну /ад хвароб шчытападобнай залозы/. Спачатку незразумелую «прынцыповасць» праявіла мытня: прычапілася да фармальнасці. /Ці здуру, ці таму, што пры ўвозе «на лапу» не даюць/. Міністр аховы здароўя параіў звярнуцца да свайго намесніка, намеснік яшчэ да некага, у выніку ў апараце не знайшлося чалавека, які б вырашыў справу. І гэта пасля Чарнобыля, пры масавых захворваннях, пры існаванні дзяржаўнай праграмы ліквідацыі наступстваў! Хоць ты ўсім міністэрствам падавай у адстаўку...

Але бяда ў тым, што наша начальства не прывыкла падаваць у адстаўку. Не ўмее. Прэцэдэнту не створана. Акрамя таго, прыгожыя ці проста рашучыя жэсты патрабуюць і самапавагі, і мужнасці, і здольнасці да рызыкі — усяго, што атрафіравана за многія гады прыслужніцтва і прыстасаванства. Адно не ясна: ці ўсведамляе чыноўнік не на сваім месцы, што ён **не на сваім месцы,** што ён з большым поспехам мог бы рэалізавацца на іншым, у іншай галіне, што яго ўтрыманне на сёння — для дзяржавы недаравальная раскоша? Чым ён для сябе апраўдвае штомесячную зарплату — сядзеннем у кабінеце «ад і да»? Імітацыяй дзейнасці? Тым, што да яго было не лепей? Ці здараюцца ў яго хвіліны рэфлексіі, незадаволенасці сабой і станам спраў: ат, кіну ўсё, гары яно гарам, не прападу...

Штосьці ж ёсць такое ў высокай пасадзе, дзеля чаго здаровы паўнакроўны мужык мусіць чапляцца за яе, даруйце, як вош за валасінку. Колькі яно загубіла душаў, уладалюбства, колькі лёсаў зламана і мараў не здзейснена...

Зрэшты, пакінем у спакоі лірыку з філасофіяй. Нашая тэма больш прыдатная для сатыры і гумару. Наўрад ці можна разбудзіць сумленне ці хаця б «уесці» пераседзеўшага дырэктара, рэктара, міністра, старшыню, дэпутата ці яшчэ каго — у іх надзейна /ці безнадзейна?/ задубела скура. Адны мо сыдуць на заслужаны адпачынак самі, другіх павядуць з пасад пад белыя рукі, і прыйдуць людзі, здольныя вырашаць і браць на сябе адказнасць, адданыя «Беларусі ідэальнай», урэшце проста сумленныя. Вось толькі — ці скора?

**Г. К.**

З пошты "ЛіМа"

# ЛЯ ЧЫЙГО ГАСЦІНЦА?

25 жніўня Беларускае тэлебачанне паказала новую музычную перадачу «Ля гасцінца». Трэба толькі вітаць пошук на беларускім тэлеэкране новых, цікавых творчых форм. Тым больш, што папрокі ў неарыгінальнасці, аднастайнасці перадач нашай цэнтральнай студыі, што гучалі і ў друку, і на розных нарадах, маюць пад сабою падставу. І вось знойдзена яшчэ адна форма. Яна ўдалая і пакідае добрае ўражанне ўжо тым, што эстрадная песня падаецца тут у камерным інтэр'еры, і гэта цалкам адпавядае законам тэлепаказу. Глядач бачыць куток кафэ, папулярных выканаўцаў за столікамі, у танцы, у размове з намі /аператарам тут варта яшчэ папрацаваць над мізансцэнамі/. І песні ў такой перадачы ўспрымаюцца намнога лепш, чым у звычайнай канцэртнай праграме, бо спяваюць тут менавіта для нас, бо гледачу патрэбна не толькі сама песня. Яму цікавая і асоба артыста. І тое, што спевакі і іншыя ўдзельнікі перадачы прыгадваюць нейкія гумарыстычныя эпізоды з уласнага жыцця, вельмі арганічна: яны такім чынам набліжаюцца да нас — і фізічна, і, галоўнае, псіхалагічна.

Аднак... Ёсць у перадачы фактар, які ўшчэнт разбурае гэты эфект прысутнасці артыстаў. Справа ў тым, што размаўляюць яны з намі не на нашай мове. Выключэнне — Анатоль Ярмоленка і Іна Афанасьева /магчыма, яшчэ хто: пачатку перадачы я, на жаль, не бачыў/. А Валерый Дайнека, Юлія Скараход, Віктар Вуячыч, Уладзімір Кудрын... Пэўна, яны не ўмеюць гаварыць па-беларуску, бо размаўлялі з намі на «общепонятном». А як жа «Закон аб мовах»? А загад Міністэрства культуры пра пераход на дзяржаўную мову працы ўстаноў і, вядома ж, службовых асоб, які даўно ўжо павінен быў быць выкананы? Ці ён не пісаны для нашага тэлебачання?

Якую мову ўжываць у штодзённым жыцці — справа вопыту і маралі кожнага чалавека, справа, урэшце, яго асабістая. Службовае ж становішча абавязвае карыстацца дзяржаўнаю моваю, прычым правільнаю, літаратурнаю. Ды і годнасць артыста, які пастаянна выходзіць на людзі, прафесійны ранг якога ў вачах публікі заўсёды высокі, вымагае быць носьбітам культуры свайго народа. Няўжо не задумваўся той жа Валерый Дайнека, які, дарэчы, шмат гадоў працуе на музычнай ніве Беларусі і паслядоўна ігнаруе на тэлеэкране беларускую мову, што ён абражае нашы грамадзянскія пачуцці?

Адзін з удзельнікаў перадачы, кампазітар Елісеенкаў прадэманстраваў у кадры валоданне беларускай мовай у гаворцы з фундатарамі. З намі ж, гледачамі, не пажадаў трымацца нашай мовы, палічыўшы, відаць, што на «великом и могучем» больш салідна. «Паэт-песеннік», як яго атэставалі з экрана, М. Трацякоў прачытаў свой беларускі верш, але зноў жа з гледачом пагаварыў па-руску.

Сорамна, шаноўнае спадарства, вельмі сорамна слухаць усё гэта з нашага ж экрана!

У дадатак да ўсяго рускім пераважна быў і песенны рэпертуар у гэтай новай, разлічанай на немалы век перадачы. Таму ствараецца ўражанне, што рыхтавалася яна яшчэ для ўсходняга суседа. Балазе, сёння нашы ўрадавыя колы і розныя чырвона-карычневыя рухі то сардэчнымі, то пагрозлівымі аргументамі спрабуюць заманіць туды на сталае жыхарства, на чужы хлеб. Можа, і перадача «Ля гасцінца» ствралася не без таго ж прыцэлу? Але трэба тады ўдакладняць усё ж назву, каб лепш арыентавацца, да чыйго гасцінца клічуць.

*г. Гродна*

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

# НЕЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС МУЗЕЯ...

У снежні гэтага года спаўняецца 17 гадоў, як быў заснаваны Музей народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам. Узрост невялікі, але й не малы. На памяці публікацыі пра экспедыцыі і вандроўкі ў розныя куткі Беларусі, дзе захаваліся помнікі драўлянага дойлідства, ды спрэчкі пра музейную экспазіцыю.

Запомнілася чамусьці і надзіва частая змена кіраўніцтва музея і яго супрацоўнікаў, скаргі апошніх на неспрыяльныя ўмовы працы, а таксама на гаспадарчыя і фінансавыя цяжкасці.

Музей сапраўды нараджаўся ў пакутах. Аднак у 1988 годзе першыя наведвальнікі нарэшце ўбачылі першыя экспанаты. І вось праз пяць гадоў мы з аўтарам тэлевізійнай перадачы «Вецер вандраванняў» Алесем Чуланавым, узяўшы відэакамеру, накіраваліся ў наваколле рэчкі Пціч...

Была нядзеля, але ніводнай душы на дарозе да музея мы не сустрэлі. На аўтастанцыі «Паўднёва-заходняя», адкуль адыходзяць аўтобусы да вёскі Азярцо, разам з намі людзей набілася ў ЛАЗ паўнютка. На прыпынку ля музея, праз нейкіх 20 хвілін язды, з аўтобуса не выйшаў ніхто. Сумна.

З размовы з супрацоўніцамі музея, якія месціліся ў нейкім непрывабным вагончыку ці модулі, што ніяк не стасуецца з гожымі сілуэтамі драўляных пабудоў, высветлілася: экскурсавода няма, інтэр'еры паглядзець нельга, і, зрэшты, за здымкі для тэлебачання трэба плаціць — такі загад кіраўніцтва.

Вось табе і гасціннасць...

А вынік? Ніводнага наведвальніка, нават у нядзелю, да фінансавага поспеху і сусветнай вядомасці, мяркуем, таксама далёка. І здымаць — «не велено».

Ці не нагадвае ўсё гэта не забыты яшчэ камуністычны прынцып: «нельга, таму што нельга»?

Тым не менш пры ўсёй сціпласці сённяшняй экспазіцыі паглядзець тут ёсць што і беларусу, і замежнаму госцю.

Знойдзены збольшага вобраз Паазер'я і Цэнтральнай Беларусі, хоць і здзіўляюць пэўныя недарэчнасці ў кампаноўцы пабудоў. Напрыклад, вятрак чамусьці змешчаны на ўскрайку лесу. Гаворка ж пра вобраз Падняпроўя, Панямоння, Палесся і этнаграфічную зону «Мястэчка» яшчэ наперадзе.

Колькі слоў для эпілога.

Музей драўлянай архітэктуры пад Мінскам, паводле задумы, павінен быў стаць адной з адметнасцей беларускай сталіцы, як вядома, не вельмі багатай на старажытныя славутасці. Часу прайшло завельмі, а здабыткаў, на жаль, няшмат.

Так, можна паскардзіцца не недахоп сродкаў, на жахлівы стан, у якім апынулася культура, на іншыя аб'ектыўныя варункі... Але ж, ці толькі ў гэтым справа? Ці многія мінчукі ведаюць пра існаванне такога музея? Нават указальнікаў да яго з боку Мінска, з кальцавой шашы, з вёскі Азярцо няма. Мо яны таксама каштуюць вялікіх грошаў?

Гэтаксама ля экспанатаў мы не знайшлі аніводнага надпісу. Музею, нават пачынаючаму, гэта недаравальна. Не арганізаваны гандаль нацыянальнымі сувенірамі, не выдадзена брашура, памятная паштоўка. Нарэшце, нават экскурсавод не з'яўляецца на працу.

І заканамерным будзе пытанне /хто толькі дасць адказ?!/: ці дачакаемся мы ўвогуле адкрыцця экспазіцыі і калі?

**Анатоль ВАРАВА**

# «ВІНАВАТЫМІ СЯБЕ НЕ ПРЫЗНАЛІ»

## МАГІЛЁЎСКІ МАРТЫРАЛОГ

Увосені 1992 года Фонд адраджэння тэатра і культурнай спадчыны Магілёва і Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр /г. Мінск/ афіцыйна звярнуліся ў абласное ўпраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці са спісам дзеячаў беларускай культуры і навукі, якія жылі і працавалі ў 20—30-х гадах у Магілёве, і прычынай знікнення якіх з грамадскага і культурнага жыцця маглі быць рэпрэсіі. У адказ быў атрыманы ліст пад N 5382-сн, які пацвердзіў такія меркаванні адносна часткі людзей са спісу:

«У 1936—37 гг. рознымі судовымі інстанцыямі БССР быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці шэраг супрацоўнікаў сферы народнай адукацыі і культуры па беспадстаўных абвінавачваннях у прыналежнасці да т. зв. контррэвалюцыйных беларускіх нацыянал-дэмакратычных арганізацыяў. У г. Магілёве гэта былі ў першую чаргу асобы, звязаныя сваёй выкладчыцкай і навуковай працай з Магілёўскім пед. інстытутам.

Так, у лістападзе-снежні 1936 г. органамі НКУС у Магілёве была арыштаваная група ў складзе 5 чалавек:

ПРУДНІКАЎ Павел Рыгоравіч, 1900 г. н., ураджэнец в. Рэкта Горацкага р-на, беларус, в. а. дацэнта Магілёўскага пед. ін-та, які жыў па адрасе: г. Магілёў, 1-шы Краснапольскі зав., д. 13.

ЧУДОВІЧ Валянцін Уладзіміравіч, 1896 г. н., ураджэнец г. Лібава, Латвія, беларус, выкладчык беларускай мовы Маг. пед. ін-та, які жыў у Магілёве, 1-шы Кузнечны зав., д. 6.

РЫЖЫКАЎ Сцяпан Ісаевіч, 1894 г. н., ураджэнец в Грэбенева Аршанскага р-на, беларус, настаўнік 2-ой Сталінскай школы г. Віцебска, жыў па адрасе: г. Віцебск, вул. 1-ая Ветэрынарная, д. 37, кв. 1.

РУДНІЦКІ Васіль Рыгоравіч, 1899 г. н., ураджэнец с. Пепелеўка Мсціслаўскага р-на, рускі, дырэктар Калінінскага інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, які жыў па адрасе: г. Калінін, Студэнцкі зав., д. 37/13, кв. 166.

ВАСІЛЕЎСКІ Даніла Мінавіч, 1899 г. н., ураджэнец в. Новае Сяло Бешанковіцкага р-на, беларус, да арышту працаваў выкладчыкам у Магілёўскім і Аршанскім пед. інстытутах, жыў па адрасе: г. Магілёў, вул. Вялікая Грамадзянская, д. 78.

Усе пералічаныя асобы беспадстаўна абвінавачваліся ў тым, што з'яўляліся членамі контррэвалюцыйнай групы, «протаскивали контрреволюционную нацдемовскую контрабанду в процессе преподавания» /гэтак у архіўных дакументах/, ідэалізавалі трацкістаўтэрарыстаў ды іх тэрарыстычныя планы, ідэалізавалі контррэвалюцыянера Смоліча, ягоныя нацдэмаўскія падручнікі, рэкамендавалі студэнтам чытаць забароненыя падручнікі і выхоўвалі іх у контррэвалюцыйным духу. Усе абвінавачваліся паводле арт. арт. 72 і 76 КК БССР. На папярэднім следстве абвінавачаныя вінаватымі сябе не прызналі.

20—21 красавіка 1937 г. у г. Мінску адбылося пасяджэнне спецыяльнай судовай калегіі Вярхоўнага Суда БССР, якая вынесла прысуд: Пруднікава П. Р. і Чудовіча В. У. на падставе арт. арт. 72 і 76 КК БССР пазбавіць волі ў папраўча-працоўным лагеры тэрмінам на 6 год кожнага з пазбаўленнем выбарчых правоў па адбыцці пакарання тэрмінам на 3 гады кожнага. Рудніцкага В. Р. і Васілеўскага Д. М. на падставе арт. арт. 72 і 76 КК БССР пазбавіць волі ў папраўча-працоўным лагеры тэрмінам на 5 год кожнага з пазбаўленнем выбарчых правоў па адбыцці пакарання тэрмінам на 3 гады кожнага. Рыжыкава С. І. на падставе арт. арт. 72 і 76 КК БССР пазбавіць волі ў ППЛ тэрмінам на 3 гады з пазбаўленнем выбарчых правоў па адбыцці пакарання тэрмінам на 2 гады.

7 лютага 1938 г. гэты прысуд быў апратэставаны намеснікам старшыні Вярхоўнага Суда СССР В. Ульрыхам як «не соответствующий материалам дела и чрезвычайно мягкий». Матэрыялы справы пераглядаліся 27—29 кастрычніка 1938 г. судовай калегіяй Магілёўскага абласнога суда ў г. Магілёве. Прысуд у новай рэдакцыі абвяшчаў:

Пруднікава П. Р., Чудовіча В. У., Рыжыкава С. І. і Васілеўскага Д. М. на падставе арт. арт. 72 і 76 КК БССР пазбавіць волі тэрмінам на 10 год кожнага з адбыццём крымінальнага пакарання ў ППЛ НКУС СССР. Паводле арт. 37 КК БССР асуджаных: Пруднікава П. Р., Чудовіча В. У., Рыжыкава С. І. і Васілеўскага Д. М. па адбыцці пакарання пазбавіць усіх правоў, апрача бацькоўскага, тэрмінам на 5 год кожнага.

Рудніцкага В. Р. на падставе арт. арт. 72 і 76 КК БССР прыцягнуць да крымінальнай адказнасці і пазбавіць волі тэрмінам на 8 год, з адбыццём кары ў ППЛ НКУС СССР. Паводле арт. 37 КК БССР асуджанага Рудніцкага В. Р. пазбавіць усіх правоў, апрача бацькоўскага, тэрмінам на 5 год па адбыцці крымінальнага пакарання.

13 чэрвеня 1956 г. справа на азначаную групу асоб была перагледжана Прэзідыумам Вярхоўнага Суда БССР, які пастанавіў:

Прысуд Магілёўскага абласнога суда ад 27—29 кастрычніка 1938 г. і касацыйнае вызначэнне ВС БССР ад 27 лістапада 1938 г. да асуджаных Пруднікава П. Р., Чудовіча В. У., Рыжыкава С. І., Васілеўскага Д. М. і Рудніцкага В. Р. адмяніць і іхнюю справу за бяздоказнасцю выстаўленага ім абвінавачання закрыць.

Азначаныя асобы рэабілітаваныя.

У ліпені 1937 г. у г. Магілёве органамі НКУС была арыштаваная яшчэ адна група работнікаў асветы колькасцю 4 чалавекі:

РАДКЕВІЧ Сямён Цімафеевіч, 1902 г. н., ураджэнец м. Урэчча, Урэцкага с/с Слуцкага р-на і акругі, беларус, дацэнт, в. а. дэкана гістарычнага ф-та Магілёўскага пед. ін-та, жыў у г. Магілёве па вул. Быхаўская, д. 25, кв. 1. З 1923 г. да 1924 г. вучыўся ў Мар'інагорскім сельгастэхнікуме, з 1924 г. да 1928 г. вучыўся ў БДУ, з 1928 г. да 1930 г. — у аспірантуры БДУ. З 1930 г. працаваў у Магілёўскім пед. ін-це.

НАРКЕВІЧ Георгі Лявонцевіч, 1893 г. н., ураджэнец в. Ліпава был. Рэчыцкага пав., беларус, настаўнік Магілёўскага педагагічнага вучылішча, жыў у г. Магілёве па вул. Вялікая Грамадзянская, д. 59.

ТУМІЛОВІЧ Іван Данілавіч, 1899 г. н., ураджэнец Уздзенскага р-на, беларус, выкладчык педагогікі Магілёўскага пед. вучылішча, жыў у г. Магілёве па вул. Быхаўская, д. 18.

ЮРКЕВІЧ Сцяпан Міхалавіч, 1897 г. н., ураджэнец с. Сяроўка Клімавіцкага р-на Заходняй Вобласці РСФСР, рускі, выкладчык педагогікі Магілёўскага пед. ін-та, жыў у г. Магілёве па 1-ым Краснапольскім зав., д. 23. Будучы пад следствам, Юркевіч С. М. памёр у Магілёўскай турме 26 лютага 1938 года. Прычына смерці невядомая.

Згаданыя асобы беспадстаўна абвінавачваліся ў тым, што, будучы нібыта членамі контррэвалюцыйнай фашысцканацдэмаўскай арганізацыі, сістэматычна праводзілі сярод студэнтаў і выкладчыкаў пед. ін-та і пед. тэхнікума падрыўную антысавецкую дзейнасць, што падпадала пад дзеянне артыкулаў 72 і 76 КК БССР. На папярэднім следстве абвінавачаныя вінаватымі сябе не прызналі.

26 сакавіка 1938 г. у г. Магілёве адбылося выязное судовае пасяджэнне спецыяльнай судовай калегіі Вярхоўнага Суда БССР, якая прысудзіла:

Радкевіча С. Ц. на падставе арт. 72-а КК БССР пазбавіць волі ў ППЛ НКУС СССР тэрмінам на 8 гадоў. Наркевіча Г. Л. і Туміловіча І. Д. на падставе арт. 72-а КК БССР пазбавіць волі ў ППЛ НКУС СССР тэрмінам на 6 год кожнага і на падставе арт. 37 КК БССР пазбавіць усіх асуджаных выбарчых правоў па адбыцці пакарання тэрмінам на 5 год кожнага. Па прадстаўленым ім абвінавачанні паводле арт. 76 КК БССР па судзе лічыць апраўданымі з-за недаказанасці.

9 ліпеня 1939 г. вызначэннем судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда СССР Туміловіч І. Д. рэабілітаваны. Гэтым жа органам 26 студзеня 1940 г. рэабілітаваны Наркевіч Г. Л. і Радкевіч С. Ц. 14 мая 1958 г. Прэзідыумам Вярхоўнага Суда БССР пасмяротна рэабілітаваны Юркевіч С. М.

Начальнік Упраўлення КДБ
В. Д. Арцыкаў.»

Сярод гэтых асуджаных людзей — карэспандэнт «Нашай Нівы», вядомы літаратар, гісторык і краязнаўца Даніла Васілеўскі, аўтары навуковых прац мовазнаўца Валянцін Чудовіч і педагог Сцяпан Юркевіч.

Загадка смерці апошняга праяснілася неўзабаве па атрыманні ліста. Газета «Вестник Могилева» 23 кастрычніка змясціла ўспаміны ягонага сына, якому прычыну смерці бацькі адкрыла маці: «Аднойчы ўвечары снежнага лютага 1938 года ў шыбу пастукала нейкая, захутаная ў шаль жанчына. У хату не ўвайшла. Хутка сказала маці, — «твайго мужа заўтра будуць хаваць на Карабанаўскіх могілках. Памёр ён на допыце: адбілі лёгкія і ныркі...» Папярэдзіла, каб мы маўчалі, і хутка сышла. Пазней мама шукала гэтую жанчыну. Высветліла, што тая працавала ў турэмным лазарэце, а потым з'ехала з Магілёва. Імя ейнага маці мне так і не назвала», — успамінае В. Юркевіч. І сапраўды, сярод прывезеных на могілкі, у скрыні, голых скалечаных трупаў маці і сын пазналі свайго мужа і бацьку. А вясной, каб не згубіць магілу, пасадзілі корчык бэзу...

Больш літасцівы аказаўся лёс для Данілы Васілеўскага. Ён хоць і страціў здароўе ў Варкуцінскіх лагерах, але ж памёр сваёй смерцю далёка ад Беларусі ў 63-м годзе. Пра астатніх «удзельнікаў» гэтых двух працэсаў пакуль невядома нічога.

Судовыя справы на гэтых людзей, дарэчы рэабілітаваных ужо з 1938 да 1956 гг., усё яшчэ захоўваюцца ў архівах КДБ, а таму і сёння недаступныя для шырокага кола даследчыкаў і грамадскасці. Ужо з гэтага факта можна меркаваць, як далёка яшчэ да аднаўлення гістарычнай праўды пра жыцці і смерці прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты Магілёва эпохі сталінізму.

**Ю. В.**

Анатоль КІРВЕЛЬ

# ПІЦЕРСКІЯ АБРАЗКІ



падстаўлялі снегу і ветру свае пругкія мармуровыя грудзі, сваю гнуткую спіну ці трохі зніякавелыя ад раптоўнай навалы класічна-завершаныя жаноцкія клубы. І ўсім ім — і мужчынскім постацям, і жаночым, — было няўтульна і холадна, як няўтульна і холадна бывае душы, калі яе апануе адзінота, альбо засцігне вялікае, несуцешнае гора.

Хацелася скінуць з сябе паліто ці шалік і хоць трохі захінуць іх, голых і адзінокіх, — схаваць ад непагоды, — але яны не згаджаліся: мармуровая гордасць, укладзеная ў іх неймаверна далёкімі і амаль забытымі стваральнікамі, не дазваляла ім гэтага рабіць, і яны, нібы толькі цяпер успомніўшы, хто яны ёсць, адхілялі і дапамогу і шкадаванне.

І гэта нечаканае адмаўленне і маўклівае, але такое рашучае сцвярджэнне сваёй годнасці — як помнікаў і... амаль як жывых істот, — раптоўна ўзрушвалі і выклікалі павагу. І калі да цябе даходзіў нарэшце патаемны сэнс іхніх паводзін, ты не адчуваў сябе болей ні адзінокім, ні забытым ці невядома нашто закінутым у гэты горад, бо і сам некалі прайшоў праз гэткае выпрабаванне — мусіў адстойваць і сваю незалежнасць і сваю адметнасць, і ўжо не хаваў болей ні ад каго сваёй усмешкі — усмешкі-спагады, усмешкі-дапамогі, усмешкі-падтрымкі.

І гэта нечаканая еднасць — паміж табой і Летнім садам, — у адно імгненне перайначвала твой настрой і надавала твайму існаванню зусім іншы, больш высокі, раней, здавалася, недасягальны сэнс: ты адчуваў сябе патрэбным гораду! І мне падумалася ў той момант, што якраз во гэткія раптоўныя выпрабаванні і гартуюць гэту еднасць. Так было заўсёды — і ў блакаду, і мо яшчэ раней — за Пётрам, ці пасля яго... І яшчэ падумалася, што так яно, пэўна, і заўсёды будзе: спагада і гордасць заўсёды ідуць поруч у гэтым горадзе, і Ласка Боская ніколі не абміне яго, як не абмінае Яна і нас, калі душа твая — не камень, не зледзянелы кавалак рэчыва, а жывы гарачы агеньчык, які ў любую непагадзь, у любыя віхуры, саграе сваім цяплом другую — слабейшую, а, часам, і знявераную — душу.

Дзякуй табе, Летні сад!

Да сустрэчы!

## СОН...

*Н. С.*

...пра хвалю...

...якая набягала знянацку...

...які сніўся штомесяц, а то і радзей...

...у залежнасці ад таго, як зіхцелі вочы, хаваючы пад густымі вейкамі дрогкае хваляванне душы....

...якая абуджалася толькі тады, калі набягала хваля...

...з белай пенай і пырскамі, што халадзілі цела, разморанае ад сну і чакання — цела было маладое і пругкае, а душа — толькі-толькі прачыналася да здзяйсненняў, да спасціжэння таго, што потым назавецца жыццём...

...і хваля, набягаючы, палохала і прымушала ратавацца — ад пырскаў, ад неспазнанасці, ад страху перад тым, што яна несла з сабой...

...і бегчы было страшэнна цяжка і жудасна, бо ногі не беглі — млелі, — і паратунку, здавалася, ніколі не будзе...

...але паратунак — ад сну і ад хвалі — усё-ткі знаходзіўся — калі сілком — ірвучы сон — расплюшчваў нарэшце нібыта намёртва склееныя павекі...

...і тады — не верачы сам сабе — са здзіўленнем бачыў, як сон нячутна адрываўся ад павекаў і месціўся на столь — белую і нерухомую, — і тады яго можна было глядзець, як кіно...

...і ў тым кіно — пад шоргат лістоты за акном — нечакана бачыў тое, што здарыцца потым: неспадзяваную сустрэчу — у вэрхале і мітусні натоўпу, — і раптоўны — нібыта маланка — пацалунак, не зразумець — у сне, ці наяве, — і целу праз тое рабілася горача і задушліва...

Вечар ахутваў нябачнымі мяккімі крыламі дрогкае ад хвалявання цела, супакойваў яго, ператвараўся ў ноч, і тады спакваля, з нетраў свядомасці, зноў набягала хваля, палохаючы сваёй велізарнасцю, неўтаймаванасцю і трывожлівым прадчуваннем ці то бяды, ці то бязмежнай трапяткой радасці... Усё залежала ад таго, як меўся стаяць да хвалі — тварам альбо спіною... Вочы няўцямліва расплюшчваліся, і белая раўнюткая столь здзіўляла сваёй чысцінёй і некранутасцю — сны не пакідалі аўтографаў — хай бы якой рысачкай ці плямінай...

Гэтым займалася памяць...

...якая вяртала...

...якая аднаўляла сон...

...які сніўся штомесяц...

## І ЗДЗІЧЭЛІ ЛЮДЗІ

...І здзічэлі людзі. Як ніколі дагэтуль. Усё раней мелі: і зерне, і пітво, і радасць ад працы.

Але чым болей мелі — тым больш дзічэлі. І тым радзей Бога ўспаміналі.

І пакрыўдзіўся на іх Бог. І наслаў хваробы ды смерць.

Пакутавалі людзі, паміралі, пакуль не зразумелі, адкуль тыя беды.

І кінуліся ніцма і загаласілі: «Божа, даруй! Ты ж — міласэрны!»

І дараваў Бог. І сказаў: «Як будзеце мяне ўпярод шанаваць, дык будзе вам усё, што абяцаў спачатку».

Акрыялі патроху людзі, зажылі весялей і заможней. Без хваробаў.

І падумалі: «А хіба ж не мы самі ўсяго гэтага дамагліся?! Ці варта гэтак укленчваць ды паклоны біць?!»

І здзічэлі паўсюль... як ніколі дагэтуль...

## ВОПРАТКА

Мова — не вопратка — панасіў, ды кінуў.

Нагі ў чалавека дзве, рукі — таксама дзве, а душа — адна.

Душа апранае, душа агаляе. Нават тады, калі вопратка — самая адмысловая.

## ЖАДАННІ

Пажадаць шчасця — у гэтым няма аніякай хітрасці.

Пажадаць здароўя — у гэтым не знойдзеш злога намеру.

Пажадаць радасці — адзінае, чаго боязна пажадаць як сабе, так і каму другому: дзеля яе трэба... проста нарадзіцца.

## ТРЫ САСНЫ

Стаялі тры сасны.

Адна — пасярод дарогі да Шчасця.

Другая — пасярод дарогі да Праўды.

Трэцяя — пасярод дарогі да Справядлівасці.

І людзі, ідучы сваімі шляхамі, заўсёды блыталіся ў гэтых трох соснах. І не здагадваліся, што перад імі — адна і тая сасна — Слепата іхняя.

Абмінуць бы яе хоць раз — празрэць на момант! — і сосны тыя — не сосны ўжо, а трыснёг: рассунуў рукой — і ідзі!

## НЯДУЖЫ

Ляжаў на зямлі чалавек. Яго білі. Ужо не са злосці, а проста так, каб не падняўся. Каб быў Ляжачым.

І тут падышоў дзядок, згорблены, сівенькі, відаць, што нядужы. І падаў руку таму, каторы ляжаў.

— Навошта ты гэта робіш? — спытаў Ляжачы. — Нашто падымаеш?

— А можа, і ты некалі каго падымеш, — адказаў дзядок і патэпаў далей.

Тыя, хто біў, не паверылі, што ён гэткі нядужы.

Расступіліся.

## ІХНІЯ КАЗКІ

— Раскажы казку! — просіць перад сном Любачка.

Тыя, каторыя ў кніжцы, даўно ўжо ведае. А тыя, што татка расказвае, вядома, цікавейшыя.

Татка прысядзе побач, абапрэцца адной рукой на ложак — схіліцца над дачушкай, каб яна ўсё чула, і каб мамцы не перашкаджаць — у яе таксама адказная праца, толькі жаночая, — і паціхеньку пачынае:

— Жыў аднойчы...

Любка прыстроіцца зручней, заціхне, а потым асцярожна — каб казку не перапыніць — сваю далонечку птушыную, лёгкую і мякенькую, да татавай рукі прыкладзе. Ледзь дакранецца спачатку — мо зазлуе татка?! Але ж ён таксама па Любцы ссумаваўся — цалюткі дзень дачушку не бачыў — і не варухне рукою! А Любка, дазвол гэты маўклівы далонькай адчуўшы, татаву руку абшчэпіць і — шчыруюць абое!

Ад далонькі Любчынай — давер і пяшчота, а ад татавай рукі — цяпло сонечнае, што на працы за дзень назбіраў.

І не трэба ім аніякай іншай казкі: гэта — самая чароўная!

# СА ЗМРОКУ МІНУЎШЧЫНЫ

## ПА СТАРОНКАХ СЕРЫІ «НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ»

будзь выразнае. Наш шлях бачыцца нам няпэўным, невыразным: то разбягаецца на некалькі сцежак і кіруе ў розныя бакі, а месцамі і зусім не прасочваецца, прысыпаны белым снегам забыцця. Людзі, якія павінны былі дбаць аб добрай яго бачнасці, выяўляць яго сярод спляцення суседніх пуцявін, шмат папрацавалі, каб падмануць нас. Яны служылі чужынскай уладзе і намагаліся вывесці нас то да «северо-западного края», то да «крэсув всходніх».

Беларусь азіраецца ў мінулае і пакутліва намагаецца выгледзець свой пройдзены шлях. Ці здольныя цяперашнія нашыя гісторыкі тут дапамагчы? Здаецца, яны пачалі руціцца, але вельмі ж нязначныя іхнія сілы, рэдкія іх шэрагі. 90 ці болей працэнтаў з тысячы з лішкам нашых дыпламаваных спецыялістаў-гісторыкаў /дактароў і кандыдатаў навук/ — гэта людзі, якія напісалі ідэалагічныя ці прапагандысцкія тэксты і выдалі іх за навуковыя працы.

Вось чаму цяжка перабольшыць значэнне.

Гісторыю сапраўды робяць людзі. Таму невыпадкова з'явілася серыя навукова-папулярных прац пад назовам «Нашы славутыя землякі», якая ажыццяўляецца выдавецтвам «Навука і тэхніка» ад моманту заснавання ў 1988 г. /адбылося яно галоўным чынам праз намаганні сп. Зміцера Санька/ і да жніўня 1993 г. выйшла 16 кніжак. Іх сціпла /можа, занадта сціпла/ аформленыя мягкія вокладкі бэжавага колеру ўжо звыкла глядзяцца на паліцах кнігарняў. Героямі серыі сталі самыя разнастайныя гістарычныя постаці: тут знакамітыя дзеячы сярэднявечча Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая, Канстанцін Астрожскі, Леў Сапега, Казімір Семяновіч, навукоўцы 19 — пачатку 20 ст. Яўстах Тышкевіч, Якуб Наркевіч-Ёдка, Уладзіслаў Дыбоўскі, Кароль Чаховіч, Мікалай Ястрэбскі, Васіль Ермакоў, змагар за вольнасць Бацькаўшчыны Тадэвуш Касцюшка, нарадаволец Ігнат Грынявіцкі, падарожніца і лекарка 18 ст. Саламея Русецкая, паэты Уладзіслаў Сыракомля і Алесь Гарун. Жыццядзейнасць гэтых асоб упісваецца ў вялізны адрэзак часу — ад 11 да 20 ст. Нашыя героі трымаліся самых розных перакананняў — ад свядомай працы на Бацькаўшчыну да поўнага адыходу ад беларускасці. Але ўсіх іх яднае прыналежнасць да гэтай зямлі па праву нараджэння, усе любілі яе, а многія і дбалі аб ёй, кожны згодна свайму разуменню.

Аўтары серыі вымалёўваюць постаці людзей актыўных, якія здолелі пражыць сваё жыццё незвычайна. Леў Гумілёў назваў бы іх пасіянарыямі. Жыццёвы шлях адных стала магчымым прасачыць праз шматлікія архіўныя дакументы, біяграфічныя апісанні і г. д., ад другіх захавалася толькі некалькі летапісных радкоў.

Імёны многіх герояў кніжак трывала ўвайшлі ў гісторыка-культурны кантэкст суседніх народаў. Беларускае паходжанне некаторых з іх не тое, што не афішавалася, а нават увогуле замоўчвалася. Таму ўся серыя праходзіць як бы пад знакам вяртання. Тут бачыцца яшчэ адна праява няпростасці беларускага шляху. Яна відная і ў назве серыі «Нашы славутыя землякі, а не, напрыклад, «Славутыя людзі Беларусі». Аднак для нас важны ўжо сам факт уключэння знакамітых /і не вельмі слынных/ продкаў у кантэкст беларускай культуры.

Аўтары серыі — людзі самай рознай адукацыі, розных палітычных перакананняў і поглядаў на нашае мінулае. Кожная кніжка заслугоўвае асобнай рэцэнзіі, але толькі адна з іх атрымала нават не адзін, а некалькі водгукаў /І. Саверчанка, «Канцлер Вялікага княства»/. Адсутнасць грунтоўнага рэцэнзавання — яскравая адметнасць глыбокага крызісу ці нават бяссілля нашай гістарычнай навукі.

Немагчыма ў адным водгуку прааналізаваць усе пабачыўшыя свет кніжкі, таму аўтар гэтай рэцэнзіі спрабуе выказацца аб серыі ўвогуле як з'яве. Прыкметна, што некаторыя з аўтараў не заўсёды могуць абстрагавацца ад прыёмаў мыслення ўласцівых савецкай эпосе /напрыклад У. Казбярук, «Светлай волі зычны звон». стар. 5—6/, іншыя volens-nolens адчуваюць Беларусь як частку Расеі /напрыклад, А. Гусак. «Практычная механіка» і «Мёртвыя душы» стар. 35/. Аўтар кніжкі «Канцлер Вялікага Княства» І. Саверчанка — асоба, якая, наадварот, намнога апярэдзіла сучаснікаў у пераадоленні шляху ад «интернационалистического» да нацыянальнага мыслення. Вымалёўка Льва Сапегі як беларускага дзеяча, які «...лёс беларускага народа, захаванне яго самабытнай культуры, традыцый і выкананне гаспадарскіх законаў... ставіў вышэй за ўласны дабрабыт і нават будучае свайго роду» /стар. 34/ выклікала даволі рэзкую негатыўную рэакцыю ў тым ліку сярод патрыятычна настроеных колаў інтэлігенцыі.

Асноўны недахоп многіх біяграфічных прац /таксама з названай серыі/ бачыцца ў тым, што яны паказваюць дзеячаў, а не жывых людзей. Такі падыход можна разглядаць як першы этап ці ступень даследавання жыцця асобы. Усе гэтыя людзі дастаткова цікавыя і вартыя таго, каб даследчык імкнуўся да максімальна магчымай паўнаты ў выяве іхняга жыцця.

Натуральна, што жыццяпіс герояў павінны падавацца на фоне грунтоўнага апісання сучаснай ім эпохі. Тут варта адзначыць найперш працы У. Арлова /«Асветніца з роду Усяслава», «Прысуд выканаў невядомы»/, Г. Сагановіча /«Айчыну сваю баронячы»/, У. Казберука /«Светлай волі зычны звон»/.

Самае вялікае пажаданне да серыі — каб аўтары акцэнтавалі ўвагу на папулярнасці, а не на навуковасці ў традыцыйна савецкім яе разуменні /навуковыя творы многіх заходніх гісторыкаў напісаныя цікавей за нашыя папулярныя/. Многія кніжкі проста сумнавата чытаць. Так, аўтар працы пра матэматыка В. Ермакова «Да ісціны найпрасцейшым шляхам» В. Дабравольскі папраўдзе пайшоў напрасткі, напоўніўшы тэкст рознымі матэматычнымі формуламі. Не загараюцца вочы ў пакупніка і ад погляду на сціплую вокладку выданняў серыі. Хоць кніжкі гэтыя разыходзяцца досыць хутка, але асядаюць яны галоўным чынам у кнігазборах свядомых беларусаў. Папулярныя працы бачацца яркімі з цікавымі, па магчымасці, каляровымі ілюстрацыямі. Арганізатары серыі — рэалісты, яны зрабілі тое, што магчыма зрабіць у сённяшні цяжкі для беларускага кнігадруку час. І зрабілі яны сапраўды вялікую справу. І ўсё ж такі давайце арыентавацца на дзень заўтрашні.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ**

Музыка

# ЧАМУ «ДЗІЦЯ» З ТАЯМНІЦАЮ Ў ГОЛАСЕ?

## ДОЎГІ РАСПОВЯД, ЯКІ МОЖА БЫЦЬ АДКАЗАМ

***Наўрад ці дазналіся б яны пра фестываль «Магутны Божа», каб не лімаўская абвестка. Прачытаўшы газету, вырашылі ўдзельнічаць і пазванілі ў Магілёў. Спачатку мелі там гастролі і далі дабрачынны канцэрт у фонд будучага фэсту. Неўзабаве выступілі й на самім фестывалі, дзе, апроч сімпатый публікі, выклікалі павагу журы, якое вылучыла іх у лік лаўрэатаў: 2-е месца. Мала таго, дырэктар прэстыжнага ўсяпольскага фестывалю новай рэлігійнай музыкі «Сакрасонг» доктар ксёндз Я.Палюсінскі запрасіў іх у Кракаў, на гэтае традыцыйнае свята.. Сёлета ж. І цяпер яны там...***

ПРАФЕСАР В.Роўда, з характэрнай для яго манерай глыбока хаваць усмешку захаплення, «страшэнна абурана» выгукнуў: «Які ж у цябе камерны хор?! У цябе... малы акадэмічны хор!!!»

З такімі словамі /відавочцы расказваюць/ прафесар «нападаў» на свайго колішняга вучня, мастацкага кіраўніка Мінскага абласнога камернага хору. Кіруе хорам Аляксей Шут, вядомы на Беларусі музыкант, з чыім імем звязаны поспехі ўсіх пеўчых калектываў, куды запрашалі яго працаваць, — і ў Барысаве, і ў Наваполацку... Вось у Мінскі абласны яго не запрашалі: гэты хор А. Шут стварыў сам.

Феномен у цяперашнім культурным жыцці. Трэці прафесійны мастацкі калектыў /пасля драматычнага ды лялечнага тэатраў/, арганізаваны ў не надта стабільны час, і за кароткі тэрмін, і не ў сталіцы — у Маладзечне! Праўда, зямля гэтая — Купалава радзіма... Роўна 9 месяцаў выношваў А.Шут сваю ідэю. І як толькі 1 мая 92-га Мінскі абласны камерны хор афіцыйна зарэгістравалі, зрабіў усё, каб яго юны голас найхутчэй пачула спадарства: 11 мая — першая рэпетыцыя, 7 чэрвеня — першы канцэрт. А там і гастролі.

«Дзіцяці» не было й года, калі сталічная філармонія наладзіла ў зале на Залатой Горцы яго дэбют. Заўважылі. А поспех на Міжнародным фестывалі хрысціянскай музыкі «Магутны Божа», што ўжо ведае чытач, увянчаўся запрашэннем у Кракаў.

Кс. Палюсінскі, як і абяцаў, пераслаў маладзечанцам дзве новыя партытуры — «Антыфон найсвяцейшай дзевы Марыі» А. Нікадамовіча ды «Імшу аб вызваленні памерлых» Я. Прыпутневіча. Але пасылка затрымалася, і тэрмін для засваення складанай сучаснай музыкі скараціўся на пару тыдняў. Так што да паездкі рыхтаваліся, не шкадуючы сябе. Дзеля рэпетыцый ахвяравалі адпачынкам, у кіраўніка «згарэла» пуцёўка ў Сочы. Дадалося арганізацыйных клопатаў, часам анекдатычных, калі пазіцыя чыноўнікаў вымушала даводзіць розніцу паміж прэстыжнай для рэспублікі афіцыйнай паездкай дзяржаўнага музычнага калектыву на замежны фестываль — і звычайным рэйсам шараговых «камерсантаў».

Уяўляючы сабе звышзанятасць А. Шута, я думала, што размова пра хор, наконт якой мы дамовіліся яшчэ ў Магілёве, адбудзецца, пэўна, пасля кракаўскага «Сакрасонга». Ды Аляксей Аляксандравіч пазваніў у разгар перадфестывальнай мітусні і запрасіў на рэпетыцыю...

«ЛЕПШАГА» дня для візіту ў Маладзечна выбраць было немагчыма: ціхі бляклы світанак зняцэўку прарвала неўтаймоўным шалёным і халодным дажджом. Залева не спрыяла вандроўнаму настрою. Затое як адчулася на яе фоне цеплыня спаткання з натхнёнымі творчымі людзьмі!

Пасля змрочных непрыветных калідораў інтэрната завода лёгкіх металаканструкцый, дзе хор арэндуе часовы прытулак, я ўбачыла дзіва. Нібы адкрылася запаветная дзверка ў каморы таты Карла — рассунулася прастора, у забаўлівым ззянні свяцільнікаў паўстаў з густам, з гаспадарскай ахайнасцю ды кемлівасцю адрамантаваны-аформлены вялізны пакой. Пры дапамозе няхітрых камбінацый з мэбляй тут абсталявана зала, у якой і рэпеціраваць зручна, і можна канцэрты ладзіць, а таксама «кабінет» для канцылярскіх спраў з пісьмовым сталом і тэлефонам, куток для адпачынку з самаварам і ўтульнымі крэсламі, ды нотная бібліятэка. Тут я, не ведаючы яшчэ, што патрапіла да заўзятых нашых падпісчыкаў, угледзела і падшыўку «ЛіМа».

Уладкаваўшыся «па той бок шафы», у першым радзе «партэра», я міжволі пашкадавала, што не маю відэакамеры: на падлозе, нібы казачныя жывыя істоты, сышліся ў гурт раскрытыя парасонікі. Дзесяткі два, не меней. Яркія, квяцістыя — а побач аднатонная чародка чорных... Іхнія гаспадары ўжо занялі харавы станок. І прыкметна хваляваліся, бо гэта была не рабочая рэпетыцыя, а «госці», з паказам выбраных старонак даволі разmaітага рэпертуару.

Адносіны кіраўніка і хору выклікалі прыхільнасць. Маэстра **не дэманстраваў**: ні сябе, ні сваё «дзіця». Ён **знаёміў**: са стылем і вынікамі партнёрства прафесійных музыкантаў — дырыжора і пеўчага калектыву. Моцарт,



*Падчас канцэрта ў Мінску хор сфатаграфаваў У.ПАНАДА*

Чайкоўскі, Бартнянскі, Беразоўскі, Часнакоў, Брукнер, Гаўрылін, Фалік, — добры тузін знакамітых імёнаў у рэпертуарным актыве. Але аснова творчасці маладога хору — музыка беларускіх аўтараў, якая і дазволіла выявіць яго выканальніцкія магчымасці падчас нашай сустрэчы.

Вось — беспадстаўна забыты А. Туранкоў: магутным, пругкім, звонкім спевам загучала «Торжествуйте днесь» і следам — кантрастам — прыгожы, тужліва-павольны распеў «Разбойника благоразумного». Вось — прэм'ера «Жалейкі», цыкла Л. Мурашкі на Купалавы вершы: ёсць і дыхтоўная пераемнасць традыцый беларускага харавога пісьма, і ўражлівы драматычны аповяд, і прывабны вынаходлівай фактурай жанравы абразок...

Харавую нізку М. Літвіна «Родныя вобразы» на вершы Коласа таксама можна лічыць прэм'ерай, хоць першаадкрывальнікам цыкла стаў акадэмічны калектыў пад кіраўніцтвам В.Роўды: маладзечанцы ж многае трактуюць зусім па-свойму, ёсць нават мясціна, дзе А. Шут «аддае» партыю хору салістам. Мастацкія знаходкі самога інтэрпрэтатара падкрэсліваюць вартасці партытуры, у выразных спевах то паўстае амаль зрокавы вобраз пераблытаных галін старога лесу; то адчуваюцца няўхільныя, фатальныя абдымкі сцюжы, якая — мовячы Коласавым словам — «збліжаецца»; то вее акварэльнай свежасцю веснавой заклічкі...

Мне падалося, што беларускую музыку А. Шут успрымае як жывы працэс, які трэба вывучаць, падтрымліваць, развіваць. Мо таму не спяшаецца ён адкідаць нікім не ўпадабаныя партытуры, імкнучыся знайсці ключык да кожнай, — праз эмацыянальнасць выканання, праз уласнае разуменне. У яго цікава гучаць прыгожы песняспеў «З прадмовы Скарыны да кнігі «Юдзіф» А. Дзмітрыева ды ягоны ж «Dies irae», і чатыры хоры У. Карызны. У яго падрыхтаваныя творы Э. Казачкова і Л. Смялкоўскага. На рабочым стале — навінкі С. Бельцюкова ды А. Елісеенкава, дарэчы, ураджэнца Маладзечна.

Майму слыху, даўно спешчанаму пяяннем хораў, прытым «самых-самых», пачулася ў гучанні маладзечанскіх галасоў штосьць невытлумачальна вабнае. Абаяльнасць маладосці, якая ўваходзіць у сілу? Максімалізм фанатычнай адданасці мастацтву? Дабрыня і азоранасць душы?

Успомніце, як звычайна выглядае харавы калектыў: даволі стракаты. Людзі рознага ўзросту, з розным жыццёвым і духоўным вопытам, з рознай прафесійнай загартоўкай. «Дзіця» А. Шута — гэта маладыя твары, маладыя вочы, у якіх столькі захопленасці, веры!

А ён і праўда ўзгадаваў калектыў «з зярнятак», сабраў тут сваіх жа «дзяцей» — гадаванцаў па Маладзечанскім музвучылішчы, дзе да нядаўняга часу выкладаў і вёў хор; і яго выпускнікоў, і цяперашніх студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі, і тых, у каго кансерваторыя ўжо за плячамі. Усе 28 — з прафесійнай музычнай адукацыяй, а хто і з добрай вакальнай школай. Ёсць фанатыкі, якія штодня ездзяць на рэпетыцыі з Мінска, Вілейкі, Смаргоні, Стоўбцаў.

«Я перад гэтымі дзяўчатамі ды хлопцамі схіляю галаву, — пачула ад А. Шута. — Як яны любяць музыку! За кароткі тэрмін, не зважаючы ні на час, ні на хваробы, шмат працуючы самастойна, яны годна падрыхтаваліся да магілёўскага фестывалю. Увогуле, за год існавання засвоілі й выконваюць каля 80 твораў». Рэдкі настаўнік гэтак адкрыта выказвае сваю ўдзячнасць да вучняў...

# ПАЎЛІНА, ПАЎЛІНКА, ЖУРАВІНКА

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЎЛІНЫ МЯДЗЁЛКІ

Усё жыццё Паўліны Мядзёлкі было аддадзена роднай Беларусі. Праз гады пранесла яна ў сэрцы ідэі нацыянальнага Адраджэння. Кажучы словамі У. Калесніка, «была адорана шчодра... так патрэбнай кожнаму сёння духоўнай энергіяй Адраджэння». Але, што цікава, да беларускасці прыйшла яна праз польскасць. Правільней, праз адмаўленне польскасці, праз пераадоленне польскамоўнага і рускамоўнага асяроддзя, што панавала на той час у Глыбокім: «Усю глыбоцкую інтэлігенцыю, — пісала П. Мядзёлка ў сваёй кнізе «Сцежкамі жыцця», — можна было па пальцах пералічыць. Адны лічылі сябе палякамі і групаваліся каля ксяндза, другія — рускімі. І ксяндзы і папы ўбівалі людзям у галаву перакананне ў тым, што калі ты католік, ходзіш маліцца ў касцёл, — значыць ты паляк, а калі праваслаўны — дык рускі».

І ў бацькоўскай хаце адчувалася пальшчызна, хоць бацька ахвотна чытаў і рускія кнігі, «выпісваў нейкія брашуры, асабліва па прыродазнаўству» і «пакрысе займаўся самаадукацыяй». Таму ці трэба здзіўляцца, што першай кніжкай, самастойна прачытанай П. Мядзёлкай, усё ж была польская. І лемантар яна неўзабаве ўзяла ў рукі не які-небудзь, а польскі. Ды і ў Глыбоцкім царкоўнапрыходскім вучылішчы, у сценах якога правяла тры гады, адчувалася, вядома ж, тая ж польска-руская арыентацыя. І панна Юлія Красоўская, пляменніца адстаўнога акцызніка, якая звярнула ўвагу на дапытлівую дзяўчынку, узялася яе вучыць бясплатна, выкладала па-польску. Для ўсяго прымушала «спяваць польскія патрыятычныя песні».

Аднак і «Северо-Западный край» быў ужо зусім не такім, як, скажам, некалькі гадоў назад. І ў Глыбокае дакацілася рэха рэвалюцыі 1905 года. Бацькаў сябра, нехта Яська Грышкевіч, які трапіў ажно ў Адэсу, завітаў у мястэчка з кіпай пракламацый і лістовак. У іх гучалі заклікі да звяржэння самадзяржаўя, да свабоды, сацыяльнай і нацыянальнай роўнасці. І вось ужо Паўлінка разам з бацькам пачынаюць самі складаць рэвалюцыйныя прыпеўкі. І, зразумела, не па-польску, не па-руску, а па-свойму, па-тутэйшаму:

**У рабочых страляе**
**І кроў пралівае, —**
**Вось наш цар, вось наш цар,**
**Вось наш рускі гасудар.**

А тут яшчэ восенню 1906 года знайшла П. Мядзёлка ў агародзе кіпу газет. Лістоўкі, газеты і нават брашуры даводзілася знаходзіць у кветніку і раней. Але то былі рускамоўныя выданні, а тут... Разгарнула: «Наша Доля». Прабегла радок-другі, не ўстрымалася: «Тата! Тата! Хутчэй ідзі сюды! Па-нашаму напісана, папростаму!»

Былі ў той кіпе і рускія выданні. Ды не яны прыцягнулі ўвагу, іх адразу адклала ўбок. Чытала ж з задавальненнем «Нашу Долю» — аказалася два нумары газеты, раз за разам паўтарала — па памяці ўжо — прадмову да зборніка Мацея Бурачка «Дудка беларуская». Шчасце падваліла, пра якое і не думалася!

Настрой дачкі і бацьку перадаўся. Узрадавала яго, што, аказваецца, і роднае слова не забыта. Бач ты, у газетах, кніжках ім карыстаюцца. І гучыць яно, яшчэ як гучыць?! І слаўна, і напеўна, і мілагучна. Даведаўся, што перад Новым 1907 годам прапанавала пані Юлія Паўлінцы прачытаць на ёлцы «Альпугару» А. Міцкевіча /па-польску, канечне/, параіў: «А ты прачытай ім Мацея Бурачка. Толькі нічога не кажы панне Юліі. Зрабі ёй неспадзеўку».

Неспадзеўка і на самай справе атрымалася. Радаваліся людзі простыя, што вершы гучаць па-тутэйшаму. А панства? Панства вусны крывіла, незадаволеным засталося. Ды і Красоўская, не сказаць, каб радавалася... Пра якую далей адукацыю ў яе доме можна было гаварыць. Хаця Паўлінчына прага да кнігі і бацькам не заўсёды падабалася.

Паўлінцы ж хацелася далей вучыцца. Пастунова з гэтай задумкай і бацькі згадзіліся. Вось толькі з грашамі ў сям'і было тугавата. Ды, як кажуць, свет не без добрых людзей. Даведаўся пра гэта колішні сусед Мядзёлкаў Будзька, які жыў у Рызе. Разгаварыўся неяк са сваімі знаёмымі Раўкоўскімі, а тыя выказалі незадаволенасць, што часта гарадскія дзеці, хоць і маюць усе ўмовы для навучання, вялікай ахвоты да навукі не праяўляюць. Будзька тады расказаў ім пра Паўлінку. «Няхай прыязджае», — пачулася ў адказ.

Лёгка сказаць — прыязджай. А грошы на дарогу? А ў што апрануцца? Тут ужо прыйшоў на дапамогу яшчэ адзін былы сусед, Стэфан Душэўскі. Даў пяцьдзесят рублёў, па тым часе гэта сума вялікая. Так і апынулася П. Мядзёлка ў Рызе, закончыла прыватныя вячэрнія курсы для дарослых.

На гэты час, ці то на 1909, ці то на 1910 год /хутчэй за ўсё ў 1910, бо наступны запіс у «Сцежках жыцця» прывязаны да 12 лютага гэтага года, калі ў Віленскім клубе чыгуначнікаў праходзіла беларуская вечарына/ прыпадае і знаёмства П. Мядзёлкі з Я. Купалам. Быў ён ужо чалавекам вядомым, бадай, і паклонніц нямала меў.

З П. Мядзёлкай, як бачна з яе ўспамінаў, гаварыў «як з дзяўчынай, гатовай пажартаваць з маладым хлопцам». Тая ж, хоць і ў завоблачных высях блукала, ды аказалася з характарам: «Насупіўшыся, я ўвесь час маўчала, незадаволеная жартаўлівым паваротам гутаркі». Я. Купала ж «жартаваў, пытаўся.., ці шмат у Вільні прыгожых дзяўчат, ці весела яны праводзяць час». Яна ж жартаў не прымала, і , калі верыць запісам /а верыць усё ж трэба з аглядкай на дзесяткі гадоў, прымаючы пад увагу, што асабістае яе жыццё не ўдалося і ўспамін аб той сустрэчы з гаркавінкай/ засталася пра новага знаёмца такой думкі: «Гэта ж чалавек, якому прадракалі вялікую будучыню, паэт, вершы якога так глыбока пранікалі ў душу, захаплялі. А тут раптам — звычайны хлопец, які вядзе такую несур'ёзную гутарку».

Тым не менш, знаёмства адбылося. І яно, безумоўна, не магло не аказаць, няхай і апасродкавана, уплыву на далейшы лёс П. Мядзёлкі. Найперш па яе далучэнне да адраджэнскіх працэсаў, культурнага і асветнага жыцця. Пасля той вечарыны «я стала сваім чалавекам сярод нашаніўцаў, а крыху пазней часта наведвала «Беларускую хатку» на Віленскай вуліцы, дзе размяшчалася рэдакцыя «Нашай Нівы», і далучылася да хору. Там я бліжэй пазнаёмілася з Бурбісам, Лявіцкім /Ядвігіным Ш./, Цёткай, Бядулем і іншымі».

Была яшчэ вучоба ў Віленскай жаночай гімназіі, падчас якой праявіла рашучасць і ў анкеце наконт нацыянальнасці запісала «беларуска», што для кіраўніцтва стала як громам сярод яснага неба: «Што гэта яшчэ за выдумкі такія? Скуль гэта ўзяліся якіясь беларусы і нейкая беларуская мова? Раз вы каталічка — значыцца і полька. Ніякай беларускай мовы не існуе». Ад свайго не адступілася, хоць пад пагрозай стала заканчэнне гімназіі. Па даручэнню А. Бурбіса кіравала такім жа нелегальным гуртком швачак і хатніх работніц...

Далей — Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбурзе, далучэнне да тагачаснага беларускага студэнцтва. Поруч з іншымі апантанцамі ідэі нацыянальнага Адраджэння, наведвала вечарыны, што праходзілі на кватэры ў прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Бываў на іх,

ЗНІКЛА стракатая купка парасонаў — хор атрымаў адпачынак да наступнай раніцы. І прыйшоў час размоў.

Аляксей Аляксандравіч з удзячнасцю загаварыў пра сваіх настаўнікаў, а цяпер і калегаў: М. Дрынеўскага, В. Роўду. Нядаўна пайшоў з жыцця самы першы яго педагог — Мікалай Георгіевіч Елісеенкаў, які стварыў у Маладзечанскім вучылішчы сваю адметную школу, дый у горадзе славіўся талентам арганізатара харавой мастацкай самадзейнасці. У многіх навучэнцах ён абудзіў імкненне самавыявіцца ў творчасці, жаданне стварыць з часам свой калектыў.

А чым жыве хор ягонага вучня і паслядоўніка? Музыкай, вядома. Двух рэпертуарных напрамкаў трымаецца А.Шут:

*— Мы спяваем духоўную музыку розных хрысціянскіх канфесій. Асабіста мне бліжэй праваслаўе, але як музыканта захапляе і каталіцкае мастацтва, і пратэстанцкае. Вось толькі уніяцкія спевы не прымаю. На Беларусі, дзякуй Богу, без крывавых сутычак ужыліся царква і касцёл. Была ў нашай гісторыі адкрытая варажнеча паміж дзвюма канфесійнымі ўладамі, што прывяло ўрэшце да спробы іх прымірэння — праз уніяцтва. Гэта з'ява хутчэй палітычная, чым духоўная, што адпаведным чынам адбілася і ў асучасненні, спрашчэнні харавой мовы, якая ў праваслаўі ды каталіцтве мае глыбінныя даўнія традыцыі, філасофскую таямніцу. Зрэшты, гэта маё прыватнае меркаванне...*

*Заўважце, што нават людзі мастацтва доўгі час былі адлучаныя ад самой думкі, што, напрыклад, Моцарт — гэта ж* **духоўная** *музыка. І цяпер, калі мы пачалі трактаваць музыку таго ж Моцарта як духоўную, яна адкрылася па-новаму. І ўзнікла неабходнасць вывучаць сэнс кананічных слоў, заглыбляцца ў змест Свяшчэннага пісання, каб потым праз афарбоўку гуку, праз фразіроўку данесці душэўны стан, закадзіраваны кампазітарам у нотах.*

*Другі напрамак нашай працы — беларуская музыка. Я лічу, яна мае каласальны патэнцыял. У нацыянальным Музычным фондзе агромністая колькасць «купленых» нотаў, за якія ніхто з выканаўцаў нават не браўся. Ёсць грувасткія, цьмяныя па думцы, але ж трэба паспрабаваць іх прачытаць і прапанаваць свой погляд на ідэю кампазітара, мо і памагчы яму зразумець аўтарскія пралікі. І потым: як жа гэта я, беларус, не буду спяваць сваё? Чаму мы ўвесь час ва ўсім ідзём за кімсьці! Звярталі ўвагу на прыбалтыйскія калектывы, якія калі-нікалі выступалі ў нас? Яны ж заўсёды і пераважна пяюць сваё...*

Вядома, у нашых калектываў складвалася традыцыя «сваё» выконваць хутчэй для адчэпнага, быццам яно загадзя было пазначана другім гатункам. Часам і небеспадстаўна, але ж не заўсёды... Колькі ў гісторыі музыкі прыкладаў, калі поспех твора залежаў адно ад таленту выканаўцы, інтэрпрэтатара! Хіба наш малады маэстра — не з тых інтэрпрэтатараў, да каго кампазітары горнуцца? У ім няма таго нігілізму самаедаў-скептыкаў, які паралізуе дух творчасці. Быў бы А. Шут скептыкам — не зладзілася б ягоная справа.

Колькі дабрахотаў шчамілася са сваімі пытаннямі: «Навошта хор? Каму вы патрэбныя, дзе выступаць будзеце?» Пасля года працы, калі абласны камерны ажно «перавыканаў паказчыкі», маючы стабільна па 7 канцэртаў у месяц, дабрахоты троху аціхлі. Аляксей Аляксандравіч з удзячнасцю ўспамінае тых, хто падтрымаў ягоную ідэю, дапамог ёй ажыццявіцца: маэстра М. Дрынеўскі, начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення культуры В. Гедройц, ягоны намеснік А. Акушэвіч.

*— А выступаць мы павінны паўсюль, дзе збіраюцца людзі: у царкве — дык у царкве, у ДК — дык у ДК, у школе — дык у школе, — мяркуе А. Шут. — Ідзе жахлівы наступ поп-культуры. Прытым не айчыннай, а з-за мяжы. Даводзілася бываць у германскіх кірхах, дзе я звярнуў увагу, як там багата збіраецца моладзі. І выступае там моладзь, у тым ліку й тая, што захапляецца рокам. Кожны іграе на якім-небудзь інструменце, пяюць Баха. У іх ёсць грунтоўная процівага часовым захапленням, і калі яны стануць дарослымі, усё ў іхнім унутраным свеце і ў вольным часе зойме адпаведнае месца.*

*Што ж робіцца ў нас? Прыязджаем з канцэртам у школу, а настаўнікі — людзі ўжо сталыя, сфарміраваныя асобы — нам потым кажуць: «Мы ўпершыню ў жыцці слухалі прафесійны хор». Гэта страшна. Добра, што нас пачалі ўжо запрашаць, паверылі, што хор існуе не толькі дзеля таго, каб адкрыць і закрыць святочны канцэрт, што цікавай можа быць і яго сольная праграма. Кажуць яшчэ: «Людзі не гатовыя для ўспрымання сур'ёзнай музыкі». Але ж у касцёле гучыць складаная музыка — і там слухаюць. У царкве пяюць складаныя літургічныя хоры — і людзі ўсё цудоўна ўспрымаюць!*

*Канечне, фестывалі, замежныя паездкі — сур'ёзнае выпрабаванне, нагода праверыць сябе, але гэта не галоўнае. Працаваць трэба тут і духоўна падымаць Беларусь. Бачыце, у нас на сцяне карта, і некаторыя мясціны пазначаны флажкамі ўжо двойчы. Вандруем. На Гомельшчыну ездзілі, у пацярпелыя раёны. Там таксама людзі і таксама хочуць музыкі. Асабліва кранае, як слухаюць дзеці. Аднойчы выступалі ў школе-інтэрнаце для дзяцей з «цяжкіх» сем'яў. Яны там жывуць, як у рэзервацыі: глухі кут, замкнёная прастора. Настаўніца нават «выбівала» аўтобус і вазіла іх у бліжэйшае мястэчка, каб не здзічэлі, каб хоць пахадзілі па асфальце, людзей, жыццё вакол сябе пабачылі. Дык пасля канцэрта ў тых дзяцей вочы зацікаўленыя зрабіліся, павесялелі...*

З А. Шутом заўсёды побач — на рэпетыцыях і ў вандроўках — абаяльная і сур'ёзная Надзея Васільеўна. Ягоная жонка, зямлячка, разам вучыліся, разам працавалі ў Барысаве, у Наваполацку. Музыказнаўца. Выкладае ў Маладзечанскім вучылішчы. З артыстамі хору займаецца сальфеджыо. Перад слухачамі выступае з папулярным лектарскім каментарыем, што ў няпэўных гастрольных умовах вымагае імправізатарскай дасціпнасці, умення зарыентавацца ў незнаёмай аўдыторыі і належным чынам «падаць» аператыўна перавярстаную канцэртную праграму. Надзея Васільеўна нясе цяжкі крыж суддзі: ніводны канцэрт не застаецца без яе крытычнага разбору.

А памочнікам у галоўнага дырыжора працуе Людміла Іванаўна Сінкевіч. Яна ж і бібліятэкар. Не адно пакаленне студэнтаў Маладзечанскага музычнага вучылішча ведае яе як нязменную загадчыцу тамтэйшай бібліятэкі. Але ж угаварыў-такі А. Шут перайсці працаваць у хор. Год угаворваў!

*— Ёсць аднадумцы, ёсць магчымасць прафесійна займацца толькі музыкай, і ад гэтай думкі хмялееш. Але... Колькі яшчэ неразумення! — расказвае ён. — Новыя пытанні: «Навошта вам у рэпетыцыйным пакоі люстэркі, мяккая мэбля? Навошта хору мяккі аўтобус?» Эканоміць мы стараемся, але не на людзях і не на інтарэсах справы. Набылі ксераксы, і такім чынам пазбавілі сябе праблемы аператыўнага капіравання нотных партый. Купілі звычайны аўтобус, але артыстам цяжка, мулка падарожнічаць у ім, калі па два канцэрты ў дзень з працяглымі пераездамі. Вырашылі пераабсталяваць салон мяккімі крэсламі — дык адзін кіруючы «тэхнар» пагаварыў з намі проста зневажальна, быццам бы мы схацелі займець штосьці сабе для дачы ці для лазенкі. А гаворка была пра крэслы са старога «Ікаруса». З ліхам напалам прыдбалі, будзем прыстасоўваць — вы бачылі тую «мэблю» ў нас перад уваходам. Дык зноў чыноўніцкае пытанне: «Навошта гэткае ламачча куплялі? Купілі б новы аўтобус!» А хіба за 5 мільёнаў купіш «Ікарус»?*

*Таму, калі вы пытаецеся наконт прапановы ўдзельнічаць у кракаўскім «Сакрасонгу», я шчыра кажу: эйфарыі з гэтай нагоды я не адчуў. Хутчэй — галаўны боль пры думцы, што да старых праблем дадаліся шчэ й новыя. Канечне, асабістае запрашэнне прафесара Палюсінскага ўразіла сваёй нечаканасцю, мы не адразу далі веры, што дырэктар такога фестывалю захацеў бачыць сярод удзельнікаў менавіта Мінскі абласны камерны хор. Пан прафесар /ён слухаў і конкурснае выступленне хору ў Магілёве, і рэпетыцыю/ патлумачыў, што яму спадабалася пяянне нашых дзяўчат і хлопцаў, бо ёсць духоўнасць і нейкая асаблівая таямніца. Гэтае прызнанне парадавала больш, чым вынікі конкурсу!*

*Нас, дарэчы, у першы магілёўскі дзень на спаборніцтва не настройвалі, гаварылі, што ніякай канкурэнцыі не будзе, будзе свята, сапраўдны фестываль з разнастайнымі прызамі для ўдзельнікаў, якія тым або іншым чынам пакажуць сваю выканаўчую адметнасць. Але потым усё ж расставілі па ранжыру: 1-е месца, 2-е, 3-е... А ўвогуле мы з прыемнасцю ўспамінаем атмасферу фестывалю «Магутны Божа», хацелі б патрапіць туды і ў наступным годзе. Ну, а пакуль задумалі зрабіць восеньскае турнэ па вучылішчах — з беларускай музыкай.*

Перабралі, здаецца, усё: праблему хормайстарскіх кадраў і задачы музыкантаў-тэарэтыкаў, асаблівасці выхавання культуры маладых артыстаў і складанасці пошуку адметнага аблічча хору. Абгаварылі атмасферу ў калектыве, якая жывіцца флюідамі духоўнага здароўя, пачуццём гумару, зычлівасцю артыстаў адно да аднаго, узаемапавагай і самаахвярнасцю ў працы... І раптам:

*— А цяпер я раскажу пра самы патаемны намер. — Аляксей Аляксандравіч быццам узяў урачысты акорд. — Вы ведаеце, што калі ў СССР вырасла сваё мастацтва, для якога спатрэбіліся элітарныя залы, улада пазабірала акустычна элітарныя культавыя памяшканні ў тых, кім яны будаваліся, — і здаволілася. Прыйшоў час, і будынкі тыя вярнуліся да сваіх законных уладальнікаў, якія, на жаль, не надта хочуць пускаць туды прафесійных музыкантаў. Па вялікім рахунку, на Беларусі не засталося ніводнай акустычна элітарнай залы. А такая менавіта база патрэбная й нам.*

*Здавалася б, у Маладзечне будуюць Палац культуры аж з дзвюма глядзельнымі заламі: на 1 тысячу і на 300 месцаў. Але ж ніводнай — акустычнай! І ўзнікла задумка: пабудаваць такую залу для сябе і памагчы людзям пачуць музыку так, як павінна яна гучаць. Зноў падтрымалі Акушэвіч і Гедройц, пачалося праектаванне. Пераканалі й мэра горада Карпенку, і далі нам участак побач з будучым Палацам. Зірніце на гэты аркуш: у зале не будзе ніводнага вострага кута, усё — авальна, высокая сферычная столь, 150 глядацкіх месцаў, балкон, гардэробы. Прататып інтэр'ера — касцёл св. Роха. Павінен быць нейкі аскетызм: мастацтва не церпіць і мітусні, і асаблівай раскошы, усё мае быць прыгожа, але... Без сытасці. Без мяккіх крэслаў, прынамсі.*

*Магчыма, гэта будзе першая на Беларусі акустычная зала, прыстасаваная спецыяльна для камернага гучання. Тут зможам прымаць усе адпаведныя праграмы, якімі будзе багата канцэртнае жыццё Мінска. Толькі б не спынілася фінансаванне! Сёння гэтая зала будзе каштаваць, прыкладна, кошту двух танкаў. Калі ж тэхніка з часам старэе і яе спісваюць, дык мастацкая, культурная каштоўнасць з часам набывае і прымнажае свае вартасці. Дый з нас ніхто не вечны, таму хай бы засталося пасля нас штосьці сапраўднае...*

*Цяпер ад мужнасці пазіцыі аблвыканкама залежыць будучыня гэтай будоўлі, з якой я звязваю клопат пра будучыню рэспублікі. Калі мы не створым вельмі тонкі ды вельмі трывушчы пласт інтэлігенцыі, нашу маладую дзяржаву не ўратуюць ні гайкі, ні рэсурсы, ні эканамічная палітыка, таму што яе будуць рабіць дылетанты. Бо сапраўдная інжынерная думка спакроўлена з глыбокім інтэлектам і культурай.*

*Масавыя фестывалі на стадыёнах — добра, але трэба глядзець у будучыню і думаць не толькі пра разовыя акцыі. Бо калі ў грамадстве зацягнецца духоўны дысбаланс, мы атрымаем пакаленне базарных хлопчыкаў з шырокімі спінамі, з поўнымі кішэнямі долараў і з пустымі вачамі, — яны прывядуць грамадства ў нікуды.*

... Заканчваю. Чаму ў разгар цяперашняга бязладдзя нарадзілася і ўжо выходзіць у свет «дзіця» з дзівосным сакральным голасам, у якім і маладосць, і надзея на будучыню, і вечнасць? Чытач, спадзяюся, адкажа сам.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**



як вядома, і Я. Купала, які ў гэты час вучыўся на вячэрніх агульнаадукацыйных курсах Чарняева.

«Заўсёды з нецярплівасцю чакалі прыходу Янкі Купалы», «Не вельмі гаваркі ў часе шумных спрэчак, заўсёды сур'ёзны Я. Купала ўважліва прыслухоўваўся да выказаных думак, час ад часу падаючы кароткія і трапныя заўвагі. У часе застольнай бяседы станавіўся вясёлы і гарэзлівы. Сапраўдным святам і асалодай для нас быў момант, калі ён чытаў нам новыя вершы, якія пазней ўвайшлі ў зборнік «Шляхам жыцця»...

Яшчэ колькі згадак у гэтым жа духу... Пра Я. Купалу-творцу, чалавека... І ні слова пра асабістыя ўзаемаадносіны. Як бы і не было той ранішняй сустрэчы ў знаёмых. Быццам не засталася яна ў свой час «незадаволеная жартаўлівым паваротам гутаркі».

Тым не менш тое, віленскае знаёмства, неўзабаве атрымала працяг. Пры тым нечаканы: «Акурат перад гэтым Янка Купала закончыў сваю «Паўлінку» і прачытаў нам. Мы загарэліся жаданнем яе паставіць. За арганізацыю спектакля ўзяўся брат прафесара Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла». А калі пачалі размяркоўваць ролі, спыніліся на тым, што менавіта ёй, П. Мядзёлцы, быць Паўлінкай. Як і ў жыцці, так і на сцэне...

Аказалася, не так гэта і лёгка. Асабліва, калі Якім Сарока і Паўлінка выражаюць свае пачуцці. Рэжысёр, а ў якасці яго запрасілі акцёра Александрыйскага тэатра Бэкін-Драздова адразу ўсё зразумеў: «Скажыце, у сваім жыцці вы перажывалі падобныя моманты?» П. Мядзёлцы засталося пачырванець і адмоўна пакруціць галавой: «Не...» Што знайшло своеасаблівую рэакцыю ў Бэкін-Драздова і Я. Купалы: «Яны, паглядаючы на мяне, шапталіся і ўсміхаліся».

Мядзёлка аказалася з характарам. Калі адмовы ад ролі нічога не далі, «у наступную рэпетыцыю са злосці... так правяла гэту злачасную сцэну, што ўсе запляскалі ў далоні». Праўда, перад гэтым пачаў заходзіць да яе на кватэру Я. Купала, ды «калі памкнуўся стаць у ролі Якіма», пачуў: «Ты што, прыходзіш рэпетыцыю праводзіць са мной, вучыць мяне цалавацца? Абыдуся без тваіх урокаў!» Затое, падчас прэм'еры /першы спектакль быў наладжаны 9 лютага 1913 года ў клубе «Пальма»/, якая прайшла з вялікім поспехам, непадступнасць як рукой зняло: «На сцэну ўбягае Купала, абдымае мяне і горача цалуе». Пасля паднёс ёй два яшчэ зусім новенькія, толькі што з-пад машыны экземпляры «Паўлінкі». На адным з іх быў напісаны на ўсю старонку верш-прысвячэнне. Не запомніўся ён ёй, правільней, з гадамі забыла. Адно ведала — было 32 радкі. А той экземпляр «Паўлінкі» ў 1921 годзе выпрасіў... для перафатаграфавання студэнт Рамуальд Замкевіч, які сабіраў калекцыю літаратурных рукапісаў і знік разам з вершам».

У «Сцежках жыцця» яшчэ адно сведчанне пра памятны вечар: «Пасля танцаў Купала праводзіў мяне на кватэру, і мы доўга яшчэ дзяліліся сваімі перажываннямі». Так і засталіся сябрамі... Яна тады кахала жанатага чалавека, пазней сышлася было з Тамашом Грыбам. Ці шкадавала пазней, што асабістыя сцежкі разышліся? Прама ва ўспамінах пра гэта не знойдзеш ні радка.

Прама не гаворыцца... Але хіба не адчувальная прадузятасць у дачыненні да Уладзіславы Францаўны Луцэвіч /а яны ж сябравалі!/, што дае аб сабе знаць у раздзелах «Сцежкамі жыцця» забароненых для публікацыі, не сведчанне сардэчнага болю?! Хіба не праступае за гэтым шкадаванне, што магло б атрымацца зусім інакш, калі б была больш разважлівай? Ды і ці выпадкова ва ўжо згаданым раздзеле з'явілася гэтая занатоўка?! — «У 1929 годзе прыехала з Заходняй Беларусі мая матка адведаць мяне. Я павяла яе да Купалаў, пазнаёміла з маткай Янкі. Доўга сардэчна гаварылі з сабой дзве старушкі.

— Чаму гэта не Паўлінка мая сынова, — казала матка Янкі. — Чаму ж яна яму адказала? Як бы я шчаслівая была!

— Бо дурная была, — адказала мая матка, — жартачкі, адмовіць такому важнаму чалавеку, як ваш сын.»

Але гэта між іншым... Дарэчы, дапытлівыя Купалавы бібліёграфы дакладна занатавалі, што Паўліна Вінцэнтаўна пасля прэм'еры «Паўлінкі» сустракалася з Я. Купалам восенню 1917 года ў Полацку, у 1920-ым—пачатку 1930-ых у Мінску, у 1932—1942 гадах. У Літаратурным жа музеі Я. Купалы ў Мінску захоўваюцца кнігі песняра з даравальнымі надпісамі. На зборніку «Творы», што выйшаў у 1930 годзе, значыцца: «Даражэнькай Паўлінцы на памятку. Янка. Менск, 19/VI-30 г.» Кніга «Песня будаўніцтву» /1936/ мае аўтограф: «Паўлінцы на памятку. Янка. Масква. 18/III—36 г». Нарэшце, захавалася фотакартка паэта: «Паўлінцы. Янка. Менскі. 19/I-30 г». Простыя надпісы, без лішніх слоў, стрымана, не эмацыянальна. А мо як у тым вершы: «Если любят больше взглядом говорят...»?

Увогуле, сёй-той з даследчыкаў жыцця і творчасці Я. Купалы схільны меркаваць, што песімістычны настрой песняра, які, дарэчы, адчувальны і ў асобных яго творах, напісаных у студзені-ліпені 1915 года, звязаны менавіта з няпэўнасцямі ва ўзаемаадносінах яго з П. Мядзёлкай. Напрыклад, гэтая думка праходзіць у рамане А. Лойкі «Як агонь, як вада...» Сваю версію аўтар даводзіць даволі аргументавана. Як бы там ні было, а Іван Дамінікавіч падтрымліваў з П. Мядзёлкай сяброўскія, прыязныя адносіны і давяраў ёй. Толькі гэтым можна вытлумачыць, што падчас сустрэчы ў Полацку восенню 1917 года ён перадаў ёй на захоўванне некалькі сваіх твораў, у тым ліку «Смейся!..», «Цару неба й зямлі» і іншыя. П. Мядзёлка вярнула іх аўтару ў 1920 годзе.

Ды пасля ўсё гэта было, пасля... А тады, пасля прэм'еры, яна была вымушана развітацца з Пецярбургам: «Непасільная праца і дрэннае харчаванне.., веснавыя туманы і белыя ночы настолькі знясілілі.., што дактары загадалі неадкладна пакінуць гэты горад». Вясной 1913 года П. Мядзёлка пераехала ў Вільню і адразу далучылася да тамашняга грамадска-культурнага жыцця. А яно, можна сказаць, там біла праз край. З 1911 года працаваў Беларускі музыкальна-драматычны гурток. Цэнтрам нацыянальнага Адраджэння і стала «Беларуская хатка».

Па прыездзе Паўліны Вінцэнтаўны гурток узяўся за пастаноўку «Паўлінкі». Адразу ўзнікла пытанне, каму даручыць галоўную ролю. Ёй, П. Мядзёлцы, якая мела поспех на сталічнай сцэне ці прэтэндэнтцы са «сваіх» С. Маркевіч. У ролі суддзі давялося выступаць Я. Купалу. Перад гэтым «Паўлінка» ў Вільні ўжо ставілася, і С. Маркевіч выконвала ролю Паўлінкі. Але Іван Дамінікавіч «аддаў перавагу пецярбургскай» выканаўцы. Больш пра гэты выбар у «Сцежкамі жыцця» не гаворыцца ні слова. Як хочаш, так і думай. Ці ўсё ж майстэрства было лепшае ў П. Мядзёлкі, ці сказаліся асабістыя сімпатыі.

У 1917 годзе яна сыграла ролю Паўлінкі ў спектаклі Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Адбылося гэта ў кастрычніку. Выконвала і ролю Зоські ў «Раскіданым гняздзе» Я. Купалы. А што тычыцца «Паўлінкі», дык п'есу гэтую лічыла «сваёй». У снежні 1922 года паставіла спектакль у Беларускай дзяржаўнай гімназіі ў Дзвінску /цяперашні Даўгаўпілс/. Праз год — у Люцынскай беларускай гімназіі /Латвія/.

А жыццё кідала з месца на месца. Пачатак першай сусветнай вайны прымусіў развітацца з Вільняй. Збіралася ліхалецце перачакаць у бацькоў, у Глыбокім. Склаўшы рукі не сядзела: «Часта ў наш дом збіраліся блізкія і далёкія

*(Працяг на стар. 12)*

# «ГЭТАЯ ХВАЛЯ ЗМОЖА ЗАХЛІСНУЦЬ І САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ...»

(Пачатак на стар. 5)

шавіністычным ухіле», і тых, каго аўтары аднеслі да «членаў ЦК і актывістаў» партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, былі неаднолькавыя. Названыя ў дакладзе А.В.Баліцкі, А.Ф.Адамовіч, П.В.Ільючонак, С.М.Некрашэвіч у матэрыялах камісіі па праверцы складу інтэлігенцыі не ўпамінаюцца. Больш таго, яны атрымалі новыя высокія пасады: Баліцкі ўзначаліў у 1926 г. Наркамасветы, Адамовіч стаў намеснікам наркома земляробства, Ільючонак — намеснікам старшыні «Белпайгандлю». Некрашэвіч у 1926 г. увайшоў ва ўрадавую камісію, якая на базе Інбелкульта падрыхтавала і ажыццявіла стварэнне Беларускай акадэміі навук, а ў снежні 1928 года быў зацверджаны яе правадзейным сябрам і віцэ-прэзідэнтам. Лёс іх вырашыўся пазней — арыштам і асуджэннем у час «раскручвання» справы так званага «Саюза вызвалення Беларусі /СВБ/».

Адносна народнага паэта рэспублікі Я. Коласа ў дадатку да рэзалюцыі па праверцы складу інтэлігенцыі зроблены такі запіс: «Мицкевич Константин /Якуб Колас/ — национал-демократический уклон, под влиянием Лесика, член ИБК, член Прав. Термин. Комиссии». Аб іншых прадстаўніках навуковай інтэлігенцыі, прозвішчы якіх называліся ў дакладзе, гаворыцца:

«1. Цвикевич Александр — национал-демократ. Сущности Советской власти не осознал, чл. През. ИБК, ученый секретарь ИБК.

2. Лесик Язеп — национал-демократ, чл. ИБК. Пред. Прав. Термин. комиссии.

3. Азбукин Николай — национал-демократ /бывший эсер — активный/, член ИБК. Научн. секретарь ИБК.

6. Смолич Аркадий — национал-демократический уклон, зав. Редакционно-издательским отделом, зам. пред. ИБК, член Президиума ИБК».

Усяго ў спісе па Інбелкульце — 14 прозвішчаў.

Праз некаторы час Калегія агітацыйна-прапагандысцкага аддзела, заслухаўшы інфармацыю партыйнай фракцыі ІБК, вынесла рэкамендацыю замяніць у Інбелкульце навуковага сакратара.

Што ж датычылася былых актыўных членаў партыі беларускіх эсэраў, то ў адносінах да іх вывады камісіі былі катэгарычнымі:

«3. Белькевич, белорусский эсер. Враждебен Советской власти. Снять. Директор Мстиславского педтехникума».

4. Маркевич, белорусский эсер. Враждебен Советской власти. Снять. Директор Полоцкого педтехникума».

Па «слуцкай справе» ў сакавіку 1926 г. у Мінскім акруговым судзе адбыўся адкрыты судовы працэс. У якасці палітычнага эксперта на ім выступіў вядомы грамадскі дзеяч, пісьменнік З. Жылуновіч, сведкамі — Я. Колас, М. Гарэцкі, А. Смоліч і інш. З. Жылуновіч даў негатыўную ацэнку дзейнасці падсудных; Я. Колас ад якой бы то ні была палітычнай сувязі з падсуднымі адмовіўся, заявіўшы, што ведаў некаторых з іх па літаратурных творах, якія яму дасылаліся для кансультацыі. А. Смоліч расказаў суду аб віленскім перыядзе жыцця Лісталада, яго супрацоўніцтве з Алексюком, апошняга ён, Смоліч, лічыць здраднікам беларускага народа.

Лісталад, Мяцельскі і Курбыка вінаватымі сябе не прызналі; Макарэня і Дземідовіч — часткова; Казак прызнаўся вінаватым толькі ў тым, што расклейваў адозвы. Прысуд быў такім. Лісталад за ўсе дзеянні атрымаў пяць гадоў пазбаўлення волі са строгай ізаляцыяй і пяць гадоў пазбаўлення ў правах. Мяцельскага, Макарэню і Дземідовіча таксама асудзілі на пяць гадоў кожнага, але, маючы на ўвазе іх маладосць, тэрмін пакарання знізілі да двух гадоў пазбаўлення волі. Казаку суд вызначыў пяць гадоў пазбаўлення волі, затым, з-за маладосці, скараціў пакаранне на трэць, а потым гэты тэрмін прызнаў умоўным і з-пад арышту яго вызваліў. Курбыка быў апраўданы.

Але і Лісталад ужо ў пачатку 1927 г. быў датэрмінова вызвалены і да 1933 г. працаваў стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Адзначым, што ў час знаходжання ў зняволенні ён пераклаў на беларускую мову першы том «Капітала» К. Маркса. Камісія па праверцы складу работнікаў выдавецтва да яго прозвішча зрабіла наступную даліску: «Листопад Георгий Иванович. Стильредактор. Шовинист, скрытен, враждебно настроен к Сов. власти, глава известного дела «Листопадовщина». У 1933 г. у час правядзення паспартызацыі жыхароў гарадоў, як судзімы, ён быў вымушаны пакінуць Мінск і пераехаць у г. Ржэў Калінінскай вобласці. Там у кастрычніку 1933 г. яго зноў арыштавалі і вывезлі ў Мінск. Тройка ДПУ, як пісала жонка Ю. Лісталада 30 ліпеня 1959 г. у звароце да Генеральнага пракурора СССР, дала яе мужу восем гадоў і выслала яго ў канцлагер ля г. Свабоднага. У лагеры яго сляды загубіліся.

У ліпені 1937 г. у адпаведнасці з загадам Яжова органы НКУС пачалі па ўсёй краіне буйную спецыяльную аперацыю па «ачысткі» грамадства ад контррэвалюцыйных элементаў. У Беларусі, як адзначаецца ў вялікай даведцы УДБ НКУС БССР «Вынікі разгрома антысавецкага падполля ў БССР /па матэрыялах следства 1937-1938 гг./», у час яе правядзення было «арыштавана і выкрыта 2570 удзельнікаў аб'яднанага антысавецкага падполля», сярод якіх аказалася 586 эсэраў. У даведцы гаварылася, што ў Мінску ў 1938 г. арыштавалі 40 чалавек эсэраўскага падполля, працаваўшых у розных партыйных і савецкіх установах, а галоўным чынам у сістэме народнай адукацыі.

Такімі былі толькі некаторыя вынікі тых мер, якіх патрабавалі аўтары прапануемага ўвазе чытача даклада ДПУ БССР. Пісаўся ён, як бачна, з загадзя зададзенаю мэтай /аб гэтым сведчыць і спецыяльны, шмат у чым надуманы, падбор фактаў і прыкладаў/: запалохаць партыйнае кіраўніцтва рэспублікі нацыяналістычнай небяспекай, прымусіць яго адмовіцца ад курсу на беларусізацыю і супрацоўніцтва з нацыянальнай інтэлігенцыяй у гаспадарча-культурным будаўніцтве, зноў павярнуць грамадства на шлях жорсткай канфрантацыі. Ход падзей хутка паказаў, што роля падобных інфармацый аказалася злавеснай.

# ПАЎЛІНА, ПАЎЛІНКА, ЖУРАВІНКА

(Пачатак на стар. 10)

суседкі, сыноў, мужоў і братоў якіх пагналі на вайну. Я чытала ім з газет весткі з фронту, вершы Я. Купалы, Ясакара /З. Бядулі/ пра вайну, і кожны раз пасля гэтага прасілі мяне праспяваць народную песню «А ў нядзельку раненька».

Думалася, вайна хутка мінецца, аднак яна «і не думала спыняцца». Даўгінава, Царыцын, зноў Пецярбург, Кіеў, Мінск... З месца на месца, як той лісток, сарваны з дрэва, неслі і неслі яе віхурныя вятры. Нідзе доўга не затрымлівалася, не магла аніяк знайсці пэўнага і пастаяннага прыстанішча. Але дзе б ні была, па меры магчымасці, знаходзіла справу, што ляжала да душы. То ў дзіцячым прытулку працавала, то з'яўлялася адказным сакратаром Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны...

А тут атрымала ліст «ад самой княгіні Радзівіл». Пра яе Паўліна Вінцэнтаўна ўжо чула, ды і Іван Луцкевіч восенню 1914 года прапаноўваў увайсці ў давер да княгіні, тым больш, як казаў ён, тая «шукае сабе кампаньёнку». І дадаў: «Трэба так накіраваць яе, каб яна давала грошы на выданне «Нашай Нівы». І ваш абавязак дабіцца гэтага».

Тады П. Мядзёлка, адначасова даведаўшыся, што М. Радзівіл жанчына з характарам, адмовілася пайсці на збліжэнне з ёю. І дзіўнага ў гэтай адмове нічога не было, бо і сама, канечне ж мела далёка нялёгкі характар.

Цяпер жа П. Мядзёлку прывабіла прапанова ў адным з «маёнткаў адкрыць беларускую школу, каб дзеці... парабкаў вучыліся на роднай мове». Такая школа і з'явілася ў Жорнаўцы /былы Ігуменскі павет/. Пазней жа, у пачатку 1918 года, разам з братам Казюком П. Мядзёлка стварыла вячэрнюю школу для дарослых. Праўда, яе педагагічная дзейнасць хутка была спынена самой жа княгіней Радзівіл. Тую абурыла, што настаўніца «збіралася яе землі дзяліць і раздаваць сялянам». «Працавала і буду працаваць толькі для іх і ніколі для князёў і паноў», — прагучала з вуснаў П. Мядзёлкі.

Уваходзіла яна, як ужо гаварылася, у Першае таварыства беларускай драмы і камедыі... Вясной жа 1919 года была прызначана інструктарам беларускіх школ у Гародні. Працавала, аднак, нядоўга. 16 ліпеня 1919 года арыштавалі палякі. П. Мядзёлка да ўсяго пісала артыкулы на культурна-асветныя тэмы, выступала ў мясцовай газеце «Родны край». Сталася так, што рэдактар сабраўся ў камандзіроўку і папрасіў вычытаць гранкі перадавога артыкула, у якім гучаў заклік змагацца з акупацыйнымі ўладамі.

Выдаў П. Мядзёлку манархіст Тодар Вернікоўскі. Ёй удалося пачуць, як Вернікоўскі па тэлефоне называў паліцыі прозвішчы супрацоўнікаў газеты, а пасля дадаў: «А цяпер сюды прыехала Мядзёлка. Бярыце ўсіх, мы толькі падзякуем вам».

Ды і на гэты раз свет аказаўся не без добрых людзей. Чалавечнасць праявіў следчы Юзаф Дамброва, не засталіся ўбаку і яе сябры. Што да самой П. Мядзёлкі, дык у час следства праявіла здзіўляючую стойкасць і смеласць. Не пабаялася кінуць у вочы пракурору: «Каб цяпер жыў наш зямляк Тадэвуш Касцюшка, які ў Амерыцы змагаўся за сапраўдную «нашу і вашу долю», ён, безумоўна, стаў бы на наш бок...»

Куды цяжэй і складаней было вырвацца з ціскаў польскіх улад у другі раз. Арышт адбыўся ўжо ў Мінску, 27 мая 1920 года. На той час, як вядома, дзейнічалі законы ваеннага часу. Часці Чырвонай Арміі ўжо рашуча грамілі польскіх захопнікаў. А тут, арыштаваны папярэдне нехта Антон Тышкевіч, прызнаўся, што на кватэры Т. Грыба і П. Мядзёлкі вялася гаворка аб стварэнні паўстанцкіх атрадаў.

Заставалася рыхтавацца да самага горшага і страшнага. І ў гэты момант П. Мядзёлка гатова была развітацца з жыццём, але, як кажуць, валодала сабой: «Сцяліся зубы, сціснуліся кулакі... Што ж, на Камароўку дык на Камароўку! /У Камароўскім лесе расстрэльвалі вязняў. — **А.М.**/. Хай бачаць, што беларусы ўмеюць змагацца і паміраць за вызваленне сваёй радзімы. Патрэбна ахвяра? Мы яе даём, крывавую ахвяру свайго жыцця. Бо ўсё прыгожае, вольнае, светлае, усё новае родзіцца праз мукі, цярпенне, праз кроў... У душы ні трывогі, ні смутку. Наступіла нейкая светлая цішыня, вызваленне ад усёй будзёншчыны. Я ўжо адчувала сябе па той бок жыцця...»

А следства цягнулася і цягнулася. Пачалося адступленне польскіх войск. Нарэшце, у ноч перад гэтым пятнаццаць чалавек пастроілі і вывелі з турмы. П. Мядзёлка згадвала: «Я ўявіла сябе ўжо ў камароўскім лесе поруч з усімі. Пэўна ж і нашых мужчын туды прывязуць. Добра было б, каб разам». Але арыштаваных накіравалі ў бок вакзала, далучылі да мужчын, пасадзілі ў вагоны і павезлі ў бок Брэста...

Пачаліся выгнанніцкія дарогі. Сядзела ў варшаўскай і вронкаўскай турмах... Было вярнулася ў Глыбокае, але, адчуваючы, што паліцыя ў спакоі не пакіне, перабралася ў Коўна. Па запрашэнню Ц. Гартнага выехала ў Лейпцыг, дзе якраз друкаваліся беларускія кнігі і падручнікі, працавала карэктарам. Летам 1922 года была запрошана беларускім аддзелам Міністэрства асветы Латвіі настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

Ярка выражаная беларуская дзейнасць П. Мядзёлкі не спадабалася дырэктару Дзвінскай беларускай гімназіі І. Краскоўскаму. А хутка восем настаўнікаў з Дзвінскай і Люцынскай гімназій былі арыштаваны. Самае цікавае, што сярод іх апынуўся і сам І. Краскоўскі. На судзе, які пачаўся ў красавіку 1925 года, ім прыпісалі «ўдзел у злачынным хаўрусе ў Латвіі», што, маўляў, «ставіў сабе мэтай сілай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукшкенцкага паветаў і далучыць іх да Беларускай дзяржавы».

Тым не менш — апраўдалі. Праўда, на рабоце не аднавілі. А тут яшчэ ў П. Мядзёлкі заканчваўся тэрмін замежнага пашпарта. Дапамагло савецкае пасольства. 20 мая 1925 года яна «ўпершыню ступіла на савецкую зямлю». У Віцебску цягнік стаяў пяць гадзін, часу вольнага ставала, таму паспяшалася ў кнігарню. Здавалася, тое, да чаго імкнулася доўгія гады, збылося: «Я ніколі не спадзявалася пабачыць столькі кніг на нашай роднай мове. Школьныя падручнікі, мастацкая літаратура, палітычная, навуковая... Слёзы радасці засцілалі вочы. Дзе ж той заняпад нацыянальнай культуры, пра які нам трубілі кожны дзень? Як апантаная, я кідалася ад адной паліцы да другой, не могучы стрымаць свайго захаплення».

Не магла не здзівіцца, што ў Мінску, калі сваім уражаннем падзялілася ў сям'і Я. Купалы, дык ад Уладзіславы Францаўны пачула: «Пачакай, пачакай, як агледзешся, дык не тое запяеш». Сам Я. Купала «маўчаў, быццам не чуючы слоў Уладкі».

Яна, як і многія, хто пасля доўгіх ростаняў нарэшце вяртаўся на Бацькаўшчыну, жаданае выдавала за сапраўднае, хацела верыць /і верыла!/, што акурат у Савецкай Беларусі і створаны ўсе ўмовы для сапраўднага нацыянальнага Адраджэння. Тым больш, нямала прыкладаў сведчыла і аб плённасці ў падобным кірунку. У гэтым П. Мядзёлка пераканалася, калі працавала лектарам беларускай літаратуры на курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў у Клімавічах, і калі тэхнічным рэдактарам у Беларускае дзяржаўнае выдавецтва ўладкавалася... Разам з тым сустракала нямала такога, што адштурхоўвала.

Але найгоршае прыйшло ў Маскве, куды ў 1930 годзе прыехала лячыцца: «18 ліпеня.., а гадзіне 3 ночы, пачуўся моцны стук у дзверы з чорнага ходу». Апынулася ў адзіночцы ў Бутырках. Як высветлілася, не вынес катаванняў І. Краскоўскі. Даў паказанне: «В мою четверку входили, кроме меня, Владимир Дубовка. Паулина Мядёлка и Николай Улащик...» З М. Улашчыкам, дарэчы, яна пазнаёмілася толькі ў 1965 ці 1966 годзе. Але гэта следства, зразумела, не цікавіла. Яшчэ б! З'явіліся чарговыя кандыдаты на ўдзел у міфічным Саюзе вызвалення Беларусі. З'явіліся, таму трэба дабіцца прызнання любой цаной: «Цяжка ўспомніць усе дэталі допытаў. На працягу 10-ці дзён кожны вечар гэтай жа парой мяне прывозілі на Лубянку, трымалі там усю ноч, а на раніцу, а гадзіне 7—8-й адвозілі зноў у Бутыркі». Скончылася, на шчасце, усё высылкай у Казань. У Маскву дазволілі вярнуцца восенню 1933 года. Вось тут пачалася самая што ні ёсць барацьба за выжыванне. Неаднойчы даводзілася даказваць, што невіноўная, а абылганая. І звальнялі з работы ў школе па палітычных матывах, і аднаўлялі.

Халіла гаркоты і па прыездзе летам 1947 года на пастаяннае жыхарства ў Будслаў. Перад гэтым вясной памёр бацька, маці, якая патрабавала догляду, зразумела, у Маскву не магла забраць. На радзіме пускалі чуткі, што «ў гады вайны працавала з немцамі-фашыстамі». Перанесла і гэтую абразу. А крылы хоць і падрэзаны былі, ды не апушчаны. Сышлася з мясцовай моладдзю, стварыла харавы і драматычны гурток. Кіраўніцтва імі па сутнасці стала вяртаннем у гады маладосці, у тую самую часіну, калі яна, П. Мядзёлка, была Паўлінкай на сцэне. Калі гэтак хораша і светла марылася і так плённа працавалася на ніве нацыянальнага Адраджэння.

Даволі рэдкія прыезды ў Мінск і прыносілі задавальненне, але адначасова адгукаліся і болем у сэрцы. Многае ж сталася зусім не так, як думалася.

У 1930 годзе, калі Я. Купала даведаўся, што П. Мядзёлка арыштавана і выслана ў Казань, ён напісаў верш «Снілася дзяўчыне», прысвечаны ёй, які перадаў брату Паўліны Вінцэнтаўны Зыгмусю. Той, прыехаўшы да сястры ў 1931 годзе ў Казань, перадаў ёй аўтарскі экземпляр:

**Снілася дзяўчыне**
**квецістае поле,**
**а наяве выйшла —**
**палыны, гуголле.**
**Снілася дзяўчыне**
**воля і багацтва,**
**а наяве выйшла —**
**няволя, жабрацтва.**
**Снілася дзяўчыне**
**дома жыць да смерці,**
**а наяве выйшла —**
**ў чужыне памерці.**

Гэты тэкст прыводзіцца ва ўспамінах П. Мядзёлкі /«Полымя», 1993, N 5/. У Зборы ж твораў Я. Купалы ў сямі тамах верш падаецца крыху ў іншым варыянце. У каментарыі да яго сцвярджаецца, што твор быў напісаны ў сувязі з пастаноўкай «Паўлінкі» 9 лютага 1913 года ў Пецярбурзе. Але ж у час прэм'еры Я. Купала, як вядома, прыпаднёс П. Мядзёлцы зусім іншы твор, пра што яна не прамінае яшчэ раз нагадаць.

«Палыны, гуголле...» Я. Купала меў на ўвазе канкрэтныя падзеі, звязаныя з арыштам і высылкай П. Мядзёлкі. А мо і не толькі іх? Магчыма, і ўвогуле задумваўся над яе няпростым лёсам.

Хаця, не будзем у чарговы раз гадаць. Пра адно толькі хочацца яшчэ ўспомніць. Некаторыя сябры, прынамсі, Т. Грыб называлі яе не толькі Паўлінкай, але і Жураўінкай.

Паўліна, Паўлінка, Жураўінка... Жураўіна ж ягада, што не кожнаму даспадобы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ВЫСТАВЫ

## ШЛЯХ ВЯРТАННЯ



Даўно раз'ехаліся госці Першага з'езда беларусаў свету. Але сумесныя мерапрыемствы з беларускімі дзеячамі замежжа працягваюцца. У канцы ліпеня ў мінскай бібліятэцы імя Я. Купалы, што стала адным з актыўных цэнтраў духоўнай дзейнасці нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, адкрылася выстава габеленаў «Чарнобыльскі боль» мастачак Валянціны Бартлавай, Галіны Крываблоцкай і Галіны Русак, беларускі са Злучаных Штатаў Амерыкі, прафесара Ратчарскага універсітэта ў Н'ю Джэрсі.

Г. Крываблоцкая прапанавала гледачам дзве новыя серыі міні-габеленаў пад агульнай назвай «Дыялог з прыродай», акцэнтуючы сваю ўвагу на выявах дрэў як пачуццёвых істот. В. Бартлава прадставіла дыпціх «Сум», пабудаваны на сімвалах духоўнага ўваскрашэння Беларусі. Экспазіцыйную ж аснову выставы склалі жывалісная карціна «Чарнобыльскі лёс» і два габелены Г. Русак. «Чарнобыльская трагедыя балюча адгукнулася ў сэрцах беларускіх эмігрантаў Амерыкі, — сказала на прэс-канферэнцыі мастачка. — Асабіста я надзвычай блізка прыняла гэты боль. Амаль адразу пасля выбуху з'явілася мая работа «Чарнобыль», што экспанавалася летам 1992 года ў Дзяржаўным мастацкім музеі, а цяпер знаходзіцца разам з выставай у Полацку».

Г. Русак пачынала сваю творчасць у межах экспрэсіянізму і імпрэсіянізму. А да беларускай традыцыі звярнулася пасля вывучэння гісторыі паўднёваамерыканскіх індзейцаў, культурная спадчына якіх мае ў сваіх карэннях падобныя рысы з беларускай і ў колеры, і ў арнаментыцы. Мастачка захапілася матывымі роднай прыроды, звярнулася да кампазіцыйнай будовы слуцкіх пасаў. «Я зацікавілася выявамі васількоў, незабудак, дубовага лісця. Пасля перайшла на знакавую інтэрпрэтацыю беларускай фауны, чалавечых постацяў, паганскіх багоў». Так з'явіліся лепшыя работы Г. Русак, пабудаваныя на спалучэнні ўласна амерыканскай і беларускай традыцый.

Мастачка перадала ў калекцыю мастацкага музея выставу сваіх твораў. Гэта з'ява для Беларусі надзвычайная, яна не мае аналогій. І можна толькі вітаць гэтую падзею, як пачатак вяртання на радзіму твораў мастакоў, што жывуць цяпер у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Францыі і іншых краінах. Бо мастацтва беларускага замежжа — гэта неад'емная частка нашай нацыянальнай культуры, нацыянальнага багацця.

Т. ГАРАНСКАЯ

*На здымку: На адкрыцці выставы Галіна КРЫВАБЛОЦКАЯ, Галіна РУСАК, Валянціна БАРТЛАВА.*

МУЗЫКА

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў РОК МУЗЫЦЫ

Салісты Лявон Вольскі з рок-гурта «Мроя» і Ігар Варашкевіч з гурта «Крама» дуэтам выканалі твор «Выпі са мной» у суправаджэнні сваіх калектываў. Так закончыўся фэст рок-гуртоў «Рок па вакацыях» 1 верасня ў сталіцы Беларусі. Амаль пяць гадзін працягваўся канцэрт сямі гуртоў на манежы летняга цырка «Шапіто», уваход куды быў бясплатны. Шэсць мінскіх гуртоў і адзін з Лондана /«Снэтч»/ былі цёпла прыняты слухачамі.

Добра, што такія гурты, як «Уліс», «Новае неба» і два вышэйпамянёныя свае творы выконваюць толькі на беларускай мове.

Дарэчы, толькі сёлета гурт «Зіндан» быў тыдзень у Непале, «Новае неба» зусім нядаўна вярнулася з Даніі, «Уліс» неўзабаве паедзе ў Галандыю, Англію і Шатландыю.

Канцэрта не адбылося, каб не яго фундатар — фірма «Дайнова», якая ўсё больш ўвагі ўдзяляе правядзенню культурна-масавых мерапрыемстваў і канцэртаў, і не толькі нашых калектываў, але і гасцей з бліжняга і дальняга замежжа.

П. ГАРДОН

ДРУК

## «АД СКАРЫНЫ-БАЦЬКІ КНІГА...»

Многія беларускія пісьменнікі пісалі для дзетак паэтычную азбуку, спрабуючы па-свойму растлумачыць значэнне тых ці іншых літар. Адным гэта ўдавалася лепш, другім — горш, але самі памкненні заслугоўваюць увагі. Напярэдадні ж сёлетняга навучальнага года выдавецтва «Юнацтва» парадавала хлопчыкаў і дзяўчынак «Лемантаром» Максіма Танка. Цікавай атрымалася кніжка /малюнкі Г. Хінка-Янушкевіч/. Напачатку зварот старэйшыны паэтычнага цэха да малечы:

Добры дзень, мой браце юны!
Я прынёс табе як дар
Ад Скарыны-бацькі кнігу —
Беларускі лемантар.

А пасля на кожную літару падабрана па некалькі слоў. І самых што ні ёсць сучасных, і тых, што забыліся ўжо, але якія не лішне ўспомніць цяпер, калі мы ўсе вяртаемся да вытокаў, а вяртанне гэтае, як вядома, пачынаецца з далучэння да матчынай мовы.

А. М.

## ГАСПАДАРНІКАМ? НЕ ТОЛЬКІ...

Выдавецтва «Вышэйшая школа» выпусціла «Кароткі руска-беларускі слоўнік эканамічных тэрмінаў», падрыхтаваны Л. Кунцэвіч, У. Нікалаевым, В. Нікалаевай. У яго ўвайшлі найбольш ужывальныя эканамічныя тэрміны, што знаходзяць прымяненне ў эканоміцы, фінансах, бухгалтарскім уліку...

Выданне ў першую чаргу адрасавана гаспадарнікам, але, думаецца, слоўнік спатрэбіцца кожнаму, хто нарэшце пачынае разумець, што жыць у суверэннай дзяржаве і не ведаць дзяржаўнай мовы — проста некультурна.

## А РАНЕЙ КАЗАЛІ — ПРЫМХІ...

«Вывучэнне народных прыкмет, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне і датычацца самых разнастайных з'яў жывой і нежывой прыроды, — адзін з аспектаў адраджэння духоўнай культуры беларусаў», — у гэтым перакананы У. Анічэнка, які разам з А. Малюком падрыхтаваў кніжку «Народныя прыкметы», выпушчаную выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. І на самай справе. Тое, што раней называлася звычайнымі прымхамі, сведчыць аб назіральнасці, дасціпнасці народа, яго повязі з акаляючым наваколлем. А матэрыялы, якія трапілі на старонкі гэтага невялікага зборнічка, дапамогуць даведацца, калі бывае ўрадлівы год, калі можна чакаць вялікага ўраджаю ад той ці іншай сельскагаспадарчай культуры, што нясуць з сабой розныя атмасферныя з'явы.

Добрая кніжка, нічога не скажаш. Каб жа толькі не псавала ўражанне ад яе невялічкая прыкрасць. У прадмове складальнікі выказваюць «шчырую падзяку акадэмікам М. І. Талстому і М. В. Бірылу за бескарысную дапамогу...» Непатрэбную? А мо ўсё-такі — бескарыслівую?!

А. М.

## «ПЕРШАЦВЕТ», N 7

Паэтычныя старонкі аддадзены П. Канашу, Т. Міроненка, Ю. Насевічу, В. Угрыновіч, Н. Бордак, У. Лобачу, Т. Барысюк, Т. Ермаковіч, С. Патаранскаму, Д. Хвастоўскаму. У раздзеле «Проза» — творы В. Бацян, У. Шніпа-Лемяшонка, Л. Шувалавай, Д. Калмыкова, А. Гарановіча, В. Трусевіча.

«Санеты кахання» П. Макаля і апавяданні Л. Левановіча «Чорныя ружы» і «Нудзістка» прапанаваны ў раздзеле «Гасцёўня». Раздзел «Повязь» — некалькі вершаў Р. Крушыны і слова пра яго Э. Акуліна.

Змястоўны раздзел «Крытыка»: слова І. Шаўляковай пра аповесць У. Караткевіча «Сівая легенда» /«Легенда вялікага чарадзея»/, Л. Рублеўская прачытвае паэтычны зборнік А. Чобата «Год» /«Некалькі разважанняў...»/, Н. Страшэўская дзеліцца ўражаннямі пра «Янычараў» С. Астраўца /«Краіна Дзукія»/.

На завяршэнне нумара «Жароўня» — пародыі А. Ненадаўца і аднаактовы жарт А. Байрунаса і Г. Гатоўчыца «Трамвай N 3».

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» N 8

У нумары — паэма А. Лойкі «Посах душы», гутарка Я. Конева з першым намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Гілепам «Ёсць шанц пазбегнуць абвалу», успаміны Ф. Конева пра кінарэжысёра В. Чацверакова «Дом і ладдзя», інтэрв'ю галоўнага рэдактара «БД» У. Вялічкі з галоўным вучоным сакратаром атэстацыйнай калегіі Міністэрства народнай адукацыі Я. Бандарэнкам «Дысертацыя на шалях інфляцыі».

У артыкуле Р. Платонава «Мэта — рэспубліка, ідэал — узорная» ўзнаўляюцца некаторыя аспекты беларусізацыі дваццатых гадоў.

Змешчаны шэраг іншых матэрыялаў, прысвечаных надзённым праблемам жыцця нашай дзяржавы ва ўмовах пераходу да рынку.

КУЛЬТУРА

## У ГОСЦІ ДА ДЗЯЦЕЙ ПРЫЙШЛА ШАПАКЛЯК

У артысткі Аліны Нядзвецкай улетку быў вольны час — здымак не прадбачылася. І яна паехала адпачываць і працаваць у аздараўленчы лагер «Іскра», што ў раёне Волмы. Тут арганізавала гурток. Вельмі таленавітыя дзеці падабраліся. І самі беглі да яе на рэпетыцыю. Так нарадзіўся спектакль «Чырвоны капялюшык» Я. Шварца. Вельмі спадабалася казка гледачам-дзецям. Спектакль быў паказаны ў трох лагерах. А ў вольны час — выступленні артысткі ў «Агеньчыку», «Зубраняці», «Арлёнку». Праграма пачыналася звычайна з выхаду гераіні ўсім вядомага мультфільма Шапакляк, а заканчвалася аповядам пра любімага ўсімі дзецьмі «Бога ў чорным» — Віктара Цоя.



Хочацца пажадаць Аліне Нядзвецкай плёну ў яе працы і новых праграм і канцэртаў.

С. ВАЛОХІНА,
педагог лагера «Зубраня».

ЛІТКУР'ЕР

## ЯКІМ БЫЦЬ ПРАВАПІСУ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб удакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы». Згодна ёй створана Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, старшыня якой — старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч. У камісію ўвайшлі пісьменнікі В. Зуёнак, А. Клышка, Я. Брыль, Б. Сачанка, І. Навуменка, мовазнаўцы А. Падлужны, А. Крывіцкі, А. Булыка, першы намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Л. Сухнат і іншыя.

На працягу шасці месяцаў камісія павінна ўнесці ў Савет Міністраў прапановы аб удакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы, падрыхтаваць новы звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

## КОЛАСАВА СВЯТА ПАЭЗІІ



Сёлета, як і летась, мінскае гарадское свята паэзіі «Песняй вітаю я вас!» прайшло на плошчы імя Якуба Коласа, дзе народны пясняр з героямі сваіх кніг займеў вечны прытулак /раней урачыстасць адбывалася ў парку імя Горкага/. І хоць неба хмарнасцю сяго-таго і прыпалохвала, сюды сцякаўся люд — найперш вучнёўская і студэнцкая моладзь.

11 гадзін. Да мікрафона падыходзіць дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа З. Камароўская. Яна вітае публіку з пачаткам навучальнага года і перадае слова А. Вольскаму. Свята было прымеркавана да Дня ведаў, і таму ён гаварыў пра Коласа не толькі як пра вялікага майстра слова, але і як пра асветніка, педагога. Услед за А. Вольскім выступілі сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч, заслужаная артыстка Беларусі Т. Мархель, дацэнт Белдзяржуніверсітэта В. Казлова, паэты Я. Хвалей і Н. Галіноўская.

У канцэрце ўдзел узялі два калектывы са Стаўбцоўшчыны — «Гавязнянка» /в. Вішнявец/ і «Коласавы землякі» /в. Мікалаеўшчына/.

Шумела, гаманіла плошча. І сам пясняр у бронзавай выяве быццам услухоўваўся ў яе гоман і, заклапочаны, даваў наказ: «Будзьце ж вы светлыя і радасныя, наступныя дні людства!»

С. ІВАНЧЫК

*На здымках: выступае сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч; на свята прыйшла моладзь.*



БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## ВЫДАДЗЕНА Ў БЕЛАСТОКУ

Плённа працуе ў Польшчы беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якім кіруе Ян Чыквін. У бібліятэчцы, што выпускае яно, пабачылі свет кнігі Н. Артымовіч «Сезон у белых пейзажах», У. Гайдука «Блакітны вырай», В. Шведа «Родны схоў», З. Сачко «Над днём похіляна», Г. Валкавыцкага «Віры», Я. Чыквіна «Кругавая чара», Т. Занеўскай «Дарэмнае падарожжа, Нарысы аб беларускамоўнай паэзіі ў Польшчы» /на польскай мове/, Л. Геніюш і Ю. Геніюша «Маці і сын».

А нядаўна з'явіўся літаратурны альманах «Мае песні табе дару». У яго ўвайшлі толькі творы некалькіх літаратараў. Старэйшаму з іх В. Стахвюку — 45 гадоў, а самыя маладыя Я. Вапа і Я. Шостак маюць па дваццаць восем...

Спонсарамі выдання выступілі беларусы з Кліўленда /ЗША/ і спадар М. Целушэцкі, які ўзначальвае на Беласточчыне фірму «Амега».

* * *

Беластоцкі пісьменнік, фалькларыст, краязнавец і гісторык М. Гайдук добра вядомы і ў Беларусі: у Мінску выйшлі яго зборнік апавяданняў «Трызна» /1991/ і кніга гістарычных эсэ «Паратунак» /1993/. Нядаўна ж М. Гайдук праявіў сябе і ў іншым амплуа: ён сабраў, уклаў і напісаў прадмову да новай кнігі «Храм і верш».

У зборніку шырока прадстаўлена паэтычная геаграфія беларускага праваслаўя. Такой кнігі ў нас, у Беларусі, яшчэ не было. Сярод аўтараў — творы К. Тураўскага, Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, М. Багдановіча, С. Палуяна, Н. Арсенневай, беластоцкіх паэтаў М. Лукшы, Ю. Баены, С. Яновіча, У. Місяюка, Н. Артымовіч і В. Шведа, мінскіх паэтаў А. Бембеля, У. Сцяпана, В. Шніпа, Л. Рублеўскай, Х. Лялько і А. Канапелькі.

Зборнік «Храм і верш» аздоблены здымкамі праваслаўных святыняў Беласточчыны.

Сяргей ЧЫГРЫН

*г. Слонім*

ЛіМ - часапіс

***По традыцыі, што ідзе ад праваслаўна-самадзяржаўнай і бальшавіцкай ідэалогіі, Унія разглядаецца як з'ява, што не датычыць развіцця беларускага этнасу і ўласна беларускай гісторыі, як нешта вонкавае і чужынскае. А між тым нарадзілася Унія непасрэдна на беларускай зямлі. Ідэя Уніі наспела ў думках інтэлектуальнай эліты старабеларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага і большасцю яе была падтрымана.***

***Справа Уніі была працягам справы Вітаўта, які рабіў пэўныя захады дзеля незалежнасці літоўскага /у сэнсе — беларускага/ праваслаўя ад клеру Масковіі. Не дзіўна, што Вітаўт і прыхільнікі Уніі за сваю арыентацыю не на «трэці Рым», а на заходнюю Еўропу атрымалі ў гісторыкаў «маскоўскай школы» адмоўную ацэнку.***

***Даўно пара асэнсаваць Унію з іншых пазіцый. Убачыць, што дала яна справе незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, суседам і гістарычным сапернікам якога была набіраючая моц Масковія, гатовая «абараніць» інтарэсы праваслаўя на Беларусі /і Украіне/ нават цаною знішчэння беларускай дзяржаўнасці і беларускага народа.***

# ПАКУТНІЦКІ КРЫЖ АЙЦА ІАСАФАТА

У 1617 годзе Жыгімонт III выдаў прывілеі на прызначэнне свяшчэнніка Іасафата Кунцэвіча адзьютарам і сукцэсарам да састарэлага Гедэона Бролніцкага, архібіскупа Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага. Гэтым жа прывілеем мацавалася паслухмянасць паствы Кунцэвічу як архібіскупу пасля смерці Бролніцкага. Заўважым, што ні ў адным разгледжаным намі тагачасным дакуменце /да 1632 года/ не сустрэлася тэрміну «уніяцкі архібіскуп». Рэлігійны ж закалот у Полацкай епархіі пачаўся з захопу Полацка Іванам Жахлівым. З 1563 года да 1579 епархія была падпарадкавана Маскоўскай мітраполіі. На яе ўзводзіліся біскупы, прызначаныя Масквою. Называліся яны біскупамі Полацкімі і Вялікалуцкімі. У той час кароль і вялікі князь Літоўскі выбіралі на гэтую епархію архібіскупаў, залежных ад Кіеўскай мітраполіі. Яны мелі сваю сталіцу ў Віцебску, Магілёве або Мсціславе і тытулаваліся архібіскупамі Полацкімі, Віцебскімі і Мсціслаўскімі, кіравалі той часткай епархіі, што заставалася ў Княстве.

У 1619 годзе Жыгімонт III па просьбе Кунцэвіча дазваляе віцебскім мяшчанам кормнікам абнавіць заняпалую царкву Прэабражэння Гаспадняга з прыдзелам св.Міколы на пасадзе Узгорскім. Каб аздабленне царквы ішло хутчэй, дазвалялася кормнікам «при той звышьпомяненой церкви мети братство церковное, в которое они вписавшись могли бы с посродку себе што рок старших обирать и схажки на обмышление приходов и расходов». Усё гэта зацвярджалася толькі ў тым выпадку, калі памянёнае брацтва, падпарадкоўваючыся архібіскупу Полацкаму, будзе ў адзінстве з Рымскаю царквою.

У 1621 годзе кароль запатрабаваў ад віцебскага ваяводы Януша Кастэвіча спыніць уціск некаторых праваслаўных цэркваў. Архібіскуп Полацкі і Віцебскі Іасафат Кунцэвіч, архімандрыт, і ўсе святары віцебскія скардзіліся, што на царкву Божую Успення Прасвятое Богамацеры з каралеўскіх валасцей і двароў не прыходзяць упрывілеяваныя каралямі падаткі. Паведамлялі таксама, што ваявода з намеснікамі ўмешваюцца ў рыбаловы і нават адбіраюць рыбу, якая, згодна прывілею, павінна ісці цэрквам і лавілася перад рэлігійнымі святамі. Умудраўся ваявода з прыхаджанаў царквы св.Міхала здзіраць яшчэ паваротшчыну — плату за праход праз замкавыя вароты.

Гэты ліст з патрабаваннем «старины не рушить и церквам кривды не чинити», выпісаны з мітрапалічых кніг, быў выдадзены Іасафату Кунцэвічу. З гэтага відаць, што Кунцэвіч апекаваўся патрэбамі як уніятаў, так і дызунітаў /праваслаўных/.

Тым часам распачалася трагедыя. У 1621 годзе Максім Герасімавіч /Мялецій Смятрыцкі/ прыехаў у Вільню, дзе звярнуўся да грамадства «не толькі словамі, але і пісьмом у друку пададзеным», быццам мае быць архібіскупам Полацкім, уладыкам Віцебскім і Мсціслаўскім. Але ж на тое біскупства быў ужо прызначаны каралеўскім прывілеем Іасафат Кунцэвіч. За тое, што «адклаўшы ўбок страх Божы і сорам чалавечы, адважыўся ў месце Віленскім... усе справы біскупскія спраўляць», Смятрыцкага выклікаў на аўдыенцыю мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсёй Русі Восіп Руцкі. Ён ставіў у віну Смятрыцкаму, што той на вялікую крыўду і шкоду айца ўладыкі Полацкага Кунцэвіча рассылаў чарняцоў па ўсіх местах і мястэчках, па вясковых цэрквах епархіі полацкай з пісьмовымі універсаламі, з посуламі на словах, падбухторваючы паству да мяцяжу супраць законнага ўладыкі.

Скардзіўся на Смятрыцкага і Лявон Крэўза, архімандрыт Віленскі, што той, грэбуючы правіламі царкоўнымі і даўнімі звычаямі, важыўся назвацца архімандрытам віленскім, заняць пасаду Крэўзы, на якую той быў законна пастаўлены.

Тым часам Жыгімонт III паведамляе бурмістрам, райцам і лаўнікам полацкім, што «нейкія Смятрыцкі і Барэцкі... змовіліся з падданымі цэсара турэцкага, непрыяцеля веры хрысціянскай і нашага, каторы... на панствы нашыя вайной наступае. З нейкім пастырам, быццам патрыярхам ерусалімскім, на шпегі да панстваў нашых ад цэсара турэцкага высланым, важыліся без дазволу, ведама і падання нашага пасвячэнне браць — адзін на мітраполію кіеўскую, а другі на архібіскупства і ўладыцтва полацкае, папіраючы тых, хто пралажэнствы духоўныя здаўна з падання нашага і спараднага на тыя пасвячэнні на сабе носяць і добрае здароўе маюць... Таму вяльможны ваявода і ўрад полацкі павінны сцерагчыся, каб памянёныя асобы, шпегі і турбатары Рэчы Паспалітай не толькі да замку і места нашага пушчоныя не былі, але каб яны пры мажлівасці былі палапаныя і да вязніцы ўсаджаныя».

Смятрыцкі сапраўды не меў прывілея на біскупства. У 1620 годзе іерусалімскі патрыярх Феафан, вяртаючыся з Масквы, па настойлівай просьбе гетмана Сагайдачнага ва ўсе уніяцкія епархіі высвеціў без дазволу караля праваслаўных архірэяў, сярод каторых і Смятрыцкага на архібіскупа Полацкага. Гарнец вугалля выкінулі на салому... Кульмінацыяй гэтай нядобрай справы сталася забойства Кунцэвіча.

Захаваліся дакументы працэсу над забойцамі Іасафата Кунцэвіча. На іх мы і будзем далей спасылацца.

Камісарскі суд прызначыў слуханне абодвух бакоў на 15 студзеня 1624 года. З-за грувасткасці справы яно было адкладзена да 18 студзеня. З боку істцовага, ад асобы Язэпа Вельяміна Руцкага, мітрапаліта Кіеўскага, усяго духавенства рэлігіі старажытнай грэцкай, усталяванага пад яго уладай, і ўсяго капітула архібіскупства Полацкага і Віцебскага айцы: Аляксандр Шкальдзіцкі, Рыгор Цылінскі, айцец Дарафей, архідыякан; шляхта: Мікалай Аколаў, Эмануіл Кантакузен Грэк, Іван Ласоўскі і іншыя. Бурмістры, ратманы, лаўнікі і жыхары Віцебска таксама пераліčваліся камісарскім дэкрэтам і павінны былі з'явіцца асабіста.

Інстыгатар і пацярпеўшы бок унеслі скаргу на бурмістраў, лаўнікаў і просты народ віцебскі. Яе змест такі: спачатку віцебчукі айца Іасафата, каралём і вялікім князем прызначанага, згодна абраду царкоўнаму мітрапалітам Кіеўскім і іншымі ўладыкамі высвечанага, прынялі і аказвалі яму як пастыру паслушэнства. Так было, пакуль не прыехаў у Княства нейкі Феафан Грэк, што назваўся іерусалімскім патрыярхам, а на самай справе быў пасланы ад турэцкага султана да маскоўскага народа падбухторваць яго к парушэнню змірэння і да вайны супраць караля Рэчы Паспалітай. Рабілася тое з тым разлікам, каб народ маскоўскі напаў на землі Кароны і Княства ў той час, калі турэцкі султан нападзе на іх з іншага боку. Гэтым Феафанам, не маючым у Рэчы Паспалітай аніякай улады, высвечаны ў Полацкія архібіскупы Максім Герасімовіч, і назваўся ён Мялеціем Смятрыцкім. Зроблена гэта ў брак улады караля, які адзін мае права прызначаць і зацвярджаць архібіскупаў, біскупаў, мітрапалітаў і ўладыкаў у Кароне і Княстве, як дакладна вызначаюць законы. З парушэннем каралеўскага права ніхто не можа атрымаць біскупскі сан, усё гэтак зробленае лічыцца нядзейсным.

Але бурмістры, ратманы, лаўнікі і мяшчане места Віцебскага сталі складаць супраць айца Іасафата Кунцэвіча змовы і замахвацца на ягонае жыццё. У доказ гэтай віны была прадстаўлена пратэстацыя самога нябожчыка ўладыкі, спісаная з полацкіх гродскіх кніг за 1621 год, затым два сведчанні шляхты пра змовы віцебчукоў у 1621 годзе. На працягу ж усяго 1622 года яны рабілі ўзрушэнні, тайныя сходкі і змовы супраць Кунцэвіча і супраць тых, каторыя па абрадзе старажытнай грэцкай рэлігіі былі яму паслухмяныя. Яна нападалі на цэрквы, у якіх пакойны айцец архібіскуп са сваімі святарамі правіў набажэнствы, білі святароў і служак, гвалтам захапілі царкоўнае начынне. Калі ж былі пакліканыя на суд Мікалая Завішы, сурагатара і войта віцебскага, дык сабраліся ў ратушы і, не жадаючы з'яўляцца ў суд, узяліся за камяні, пакідалі ў знак змовы і рокашу шапкі ў адну кучу, крычалі: «Біць, забіць», так што войт і нябожчык уладыка ледзьве ўратаваліся ўцёкамі.

У далейшым Кунцэвічу аддалі некалькі цэркваў, але вынеслі з іх царкоўнае начынне, срэбныя і залатыя ўпрыгожанні, пакінуўшы храмы пустымі. Віцебскі ваявода, жадаючы папярэдзіць падобныя сумяціцы і змовы, паслаў да іх у ратушу свайго падваяводу Ужанецкага, каб наперад не ўсчынялі рокашаў супраць кіраўніцтва і айца ўладыкі, захоўвалі спакой у дачыненнях з ім. Ён прызначыў заручны штраф на кожнага вінаватага па 1000 грошаў. Яны ж, не зважаючы на гэтую заруку, добраахвотна імі дадзеную, засталіся яшчэ больш упартымі і здзейснілі свой намер. У гэтай справе яны мелі адной думкі і волі памагатых: Ільва Гурку, земскага пісара, Міколу Васілевіча, віцебскага гараднічага, Івана Кісяля Дарагіцкага, Івана і Мікалая Нашкоўскіх і Івана Катовіча. У змове і пагадненні з мяшчанамі магілёўскімі і віленскімі вышэйназваныя мяшчане віцебскія з усім простым народам места Віцебскага, з сялянамі шляхты і іншых юрысдыкцый 12 лістапада адразу пасля ютрані загадалі ўдарыць набатам у ратушны звон і ўсе царкоўныя званы. Вышэй памянёныя асобы з натоўпам каля тысячы чалавек напалі на дом архібіскупа Полацкага, размешчаны каля царквы Прачыстае Багародзіцы. Разламаўшы вароты і паркан, яны тую частку дома, дзе знаходзіўся архібіскуп, абклалі саломай і пачалі паліць. Урэшце, гвалтам уварваўшыся ў дом пастыра, жорсткім чынам пазбавілі яго жыцця. Здзекаваліся над трупам, цягнулі яго за ногі па двары, паздзіралі апратку, білі нябожчыка нагамі па твары. Знявечыўшы такім спосабам цела нябожчыка, узялі яго за ногі і скінулі з крутой Прачысценскай гары, на якой стаяў дом архібіскупа. Потым забойцы паклалі труп у човен і, прывязаўшы да шыі і ног камяні, павезлі ўверх па Дзвіне і там утапілі.

Некаторых архірэйскіх слуг жорстка збілі палкамі, разрабавалі ўвесь дом і пакралі маёмасць уладыкі. Дастаўшы з сутарэння нябожчыка напоі, на радасцях ад такога небывалага злачынства пілі. Насыціўшыся віном, пачалі адбіваць замкі ад свірнаў, пабралі збожжа, пааддзіралі жалеза ад экіпажаў, вакон і дзвярэй, паразбівалі грубкі, усё папсавалі і знішчылі.

Цела нябожчыка пазней было выцягнута з вады і выстаўлена ў віцебскай замкавай управе.

Пасля прачытання гэтых законных іскавых дакументаў бурмістры, ратманы, лаўнікі і віцебскія мяшчане асабіста і добраахвотна перад судом сказалі наступнае:

Архібіскуп Іасафат Кунцэвіч прыбыў у Віцебск на ўладыцтва і прад'явіў лісты нашага міласцівага караля, мы прынялі яго як пастыра і, угледзеўшы ягонае святое і вялебнае жыццё, заўважалі, што ён не зрабіў і на каліўца пераменаў у абрадах Божай царквы, але ўсё спраўляў згодна правілаў сабораў і Святых айцоў, ва ўсім трымаў веру старажытнага грэцкага закона. І гэта цягнулася тры гады. Потым жа, у пакаранне за грахі нашыя і нашых продкаў, Мялецій Смятрыцкі прыслаў нейкага Сільвестра ў чарнецкім адзенні з іншымі таварышамі, з лістамі сваімі ў Віцебск. Гэтыя ўяўныя чарняцы, разам з імі поп Іван Камянец, тутэйшы падданы караля, што і зараз знаходзіцца каля пісара Гурка, з віцебскім пісарам гродскім Адамам Косавым і іншымі асобамі, памянёнымі ў пратэстацыі айца архібіскупа, прыйшлі ў ратушу сакавіка трэцяга дня 1621 года і аддалі ліст, у якім Мялецій Смятрыцкі менаваў сябе архібіскупам Полацкім, уладыкам Віцебскім і Мсціслаўскім, і што быццам ён з ведама і дазволу караля быў высвечаны на гэты сан, а айца Іасафата Кунцэвіча назваў адступнікам. У той жа час грамадзяне, быўшыя са згаданымі чарняцамі, просты народ і некаторыя старшыны, як Навум Воўк, Сямён Неша і іншыя, прыйшоўшы ў ратушу, загадалі чытаць гэты ліст, а прачытаўшы — раптоўна, не параіўшыся з намі і нягледзячы на нашыя ўгаворы, узрушыліся супраць айца ўладыкі Іасафата Кунцэвіча, насуперак волі і лістоў караля.

Перайшоўшы на бок Смятрыцкага, яны падпісалі незаконныя абавязацельствы яму, выробленыя і падпісаныя спамянутымі грамадзянамі і шляхтаю, а потым адабралі цэрквы і гвалтам прымусілі папоў перайсці на бок Смятрыцкага. Калі ж прыйшлі ад караля лісты і ваявода і войт наш хацеў судзіць вінаватых, тады просты народ і некаторыя старшыны, рабіўшыя смуту, судзіць сябе не дазволілі, айца ўладыку ледзь не забілі, дый сам ваявода знаходзіўся ў вялікай небяспецы. Хаця цэрквы і вернуты былі згодна загадаў караля айцу ўладыку, але з тае пары бунтаўшчыкі яму не падпарадкоўваліся. У 1623 годзе яны пабудавалі дзеля сходак сваіх два шопы, адзін за Дзвіной, другі на Задунаўі. Калі ж некаторыя з нас хацелі перапыніць гэта, іншыя ж нашы таварышы, прыняўшы старану простага народа, не дапусцілі нас пакараць вінаватых і перапыніць свавольства.

Між тым прыехаў да нас айцец уладыка. Ён быў папярэджаны аб небяспецы, але сваёй дабрадушнасцю, спагадай і рахманасцю спадзяваўся прыхіліць да сябе і прывесці ў пакаянне, уважаючы сябе невінаватым, нават у пабудаваныя шопы сам не хадзіў і слугаў не пасылаў сваіх. Пачуўшы ж крыкі з шалашоў за ракой у зняважу сваю, казаў: «Яны самі не ведаюць, што твораць». І маліў Бога за іх.

12 ж лістапада, калі архібіскуп быў на ютрані ў саборнай царкве, тутэйшы віцебскі поп Уваскрасенскай Заручаўскай царквы /перад гэтым падпарадкоўваўся айцу Іасафату, але потым далучыўся да ўзбуджанага народа/ часта і без патрэбы шлындаў каля дома Кунцэвіча і таму быў затрыманы слугамі архібіскупа. Але ўладыка, як толькі зведаў пра гэта, дык загадаў вызваліць яго. Народ жа, будучы ў змове супраць Кунцэвіча, скарыстаў гэты выпадак за нагоду дзеля выканання свайго злачыннага намеру, ударыў у званы і жудасным гвалтам уламіўся ў дом уладыкі, здзейсніў гэтае страшэннае забойства і праліццё нявіннай крыві. Тыя ж, хто былі на ютрані, і мы ў тым ліку, павінны былі ад такога гвалту ратавацца ўцёкамі, бо нам было б тое ж самае, калі б пачалі пярэчыць.

Пасля забойства многія ўдзельнікі яго разбегліся, іхні спіс мы перадаём суду; тых жа, каго мы здолелі схапіць, — трымалі ў вязніцы і зараз таксама перадаём.

Бурмістр Васіль Боніч прад'явіў пісьмовае апраўданне, што ён ніколі не быў прычынай смерці айца ўладыкі і не толькі невінаваты словам і справай, але і думкамі. Наадварот, калі адбыўся бунт, ён хацеў судзіць Сцяпана Пасёрку як завадатара, але бурмістр Навум Воўк, спраўляючы на той час абавязкі ландвойта, разам з таварышам сваім ратманам Багданам Астапавым не дапусціў Пасёрку да пакарання. Ён жа, Боніч, з некаторымі іншымі асобамі пратэставаў супраць пабудовы шопаў і ў доказ прад'явіў выпіс з войтаўскіх кніг Віцебска — пратэстацыю ад 18 жніўня 1623 года. Боніч спасылаўся на лісты нябожчыка ўладыкі да віцебскага ваяводы, у якіх архібіскуп увінавачваў бурмістраў Навума Ваўка і Сямёна Нешу, а іншых і яго, Боніча, называў чалавекам спакойным і да сябе прыхільным.

Бурмістр Сямён Неша, ратман Багдан Астапаў, гродскі пісар Рыгор Боніч апраўдваліся тым, што яны напярэдадні забойства айца ўладыкі, у суботу, выехалі да ваяводзіча свайго віцебскага войта па службовых справах, а 12 лістапада, у дзень забойства, яны былі ў Бешанковічах, у маёнтку пана Друцкага-Сакалінскага, пісара Вялікага княства Літоўскага.

Ратман Рыгор Аўсяевіч тлумачыў, што ён больш двух тыдняў да мяцяжу не быў у Віцебску, аб гэтым не ведаў і ні словам, ні чынам у забойстве ўладыкі не ўдзельнічаў, гатовы пацвердзіць прысягаю і тлумачэнне гэтае падаў папераю.

Ратман Багдан Сіткевіч пісьмова тлумачыў, што не было яго ў натоўпе мяцежнікаў і невінаваты ён у смерці айца Іасафата, выклікаўся прысягнуць. Ратман Міхал Гарбун апраўдваўся словамі і жадаў прысягнуць.

Лаўнік Гапей Васілевіч падаў сведчанне некаторых віцебскіх грамадзян, што падчас сумятні ён стаяў з імі каля царквы Дабравешчання ў Ніжнім замку і нікуды ад іх не адыходзіў.

Супраць гэтых і падобных апраўданняў каралеўскі інстыгатар і слугі айца ўладыкі запярэчылі так:

Абвінавачаныя апраўдваюцца адны адсутнасцю сваёю ў дзень бунту, другія падаюць сведчанні малазнаёмых людзей, магчыма, сваіх жа паплечнікаў, і ўвогуле — адны недаказальныя словы. Яны не прызнаюць сябе вінаватымі ў гэтай трывозе і варварскім учынку, што не можа быць ім апраўданнем.

Па-першае, увесь Віцебск, за выключэннем некалькіх асобаў, здаўна абвінавачаны ў мяцяжы і злым намеры яшчэ самім айцом уладыкам, што бачна з пратэстацый і рэляцый возных і афіцыйных сведчанняў тутэйшых абывацеляў. З прызнання мяшчанаў вынікае, што яны прымалі падазроных чарняцоў у ратушы насуперак забароне караля і перасцярогі мясцовага ваяводы. Тым самым утварылі не прыватнае, але грамадскае злачынства і знявагу караля. Не заўважана таксама, каб бурмістры і магістрат рабілі захады супраць гэтага бунту, змовы і народнага ўзрушэння. Абвінавачаныя прадаставілі толькі недаказаныя словы і асабістыя пратэсты, таму і не могуць апраўдацца гэтым, бо самі былі завадатарамі, узбуджалі народ парадамі і ўчынкамі, а, падбухторыўшы, самі выехалі спецыяльна перад тым часам у суботу вечарам, начавалі за мілю ад места, а ў Бешанковічы прыехалі ў нядзелю вечарам. Іншыя ж спецыяльна не выходзілі з дому дзеля спынення мецяжу, але галоўных завадатараў абаранілі і выпусцілі з места, таму што калі б іх затрымалі, то зараз лёгка было б адшукаць вінаватых і яны б паказалі на змову і сапраўдныя намеры бурмістраў, ратманаў і купцоў. Такім чынам яны зрабілі супраць Магдэбургскага права, якое абавязвала іх папярэджваць бунты і ўзрушэнні, наадварот — усчынілі мяцеж і забойствам пазбавілі самі сябе начальніка, дадзенага каралём.

Інстыгатар запатрабаваў катавання вінаватых.

Згодна таму ж Магдэбургскаму праву злачынцы, забіўшыя айца ўладыку і абрабаваўшыя ягоную маёмасць, павінны былі быць пакаранымі на страту. Што тычылася прыватных асоб, слуг нябожчыка айца ўладыкі, шляхты, угвалтаванай пабоямі ды калецтвам, рабункам маёмасці, яны згодна са Статутам, меліся быць узнагароджаны. Інстыгатар запатрабаваў, каб прысудзіць вінаватых да выплаты, якую віцебскі ваявода праз управу наклаў на іх і іхнюю маёмасць за ўчыненне імі злачынства альбо ўзрушэння. Тых жа, хто падпарадкоўваўся айцу архібіскупу і невінаваты ў забойстве, а іменна: бурмістра Пятра Івановіча, Філона Грома, Івана і Мікалая Гутараў, Ждана Шчура вызваліць ад усялякага суда і пакінуць пры ўсіх іхніх прывілеях.

Каралеўскія камісары, разгледзеўшы гэтыя прамовы, спрэчкі і спасылкі на сведчанні, жадаючы спазнаць галоўнага вінаватага злачынства, карпатліва праводзілі даследаванні, дапрасілі вязняў — бурмістраў Навума Ваўка і Сямёна Нешу з іншымі. З усяго гэтага і ўласнага прызнання бурмістраў і шмат якіх грамадзянаў віцебскіх угледжана, што яны, будучы ўзбуджаныя праз лісты і пасланцоў Мялеція Сматрыцкага да бунту і непаслушэнства, здаўна ўтваралі змовы на жыццё айца Іасафата Кунцэвіча, свайго пастыра, і не адзін раз на гэта замахваліся. Урэшце 12 лістапада выканалі свой намер. Гарадская ўправа, бурмістры, ратманы і купцы, — агалошвалі далей камісары, — маглі і павінны былі пярэчыць гэтаму злачынству, але насупраць, як Навум Воўк, Сямён Неша і іншыя, выехаўшы ў суботу з места, знаходзіліся блізу, а іхнія браты, сыны і прыслуга сумесна з простым народам выканалі гэты жорсткі ўчынак. Гэта паказвае, што і гарадская ўправа, за выключэннем некалькіх прывержанцаў нябожчыка, была прычасная да злачынства. Таму прызнаваліся вінаватымі не толькі просты народ, але і гарадская ўправа.

Зыходзячы з гэтага, Віцебск быў пазбаўлены Магдэбургскага права і волі ад выплаты мытаў. Са стратай Магдэбургскага права віцебчукі мусілі быць пад юрысдыкцыяй і ўладаю віцебскага ваяводы.

Ратушу было загадана разбурыць, замест яе дазволена мець гасцёвы двор, як было раней. У справах судовых мяшчане мелі права на апеляцыю ў Надворны суд яго каралеўскай міласці. Мыты ад сваіх тавараў і ўсялякага гандлю па скарбовым статуце жыхары места мусілі плаціць у скарбніцу караля.

Прызначылі на страту толькі тых, каго грамадзяне самі на суд падалі ў жалезе і каторых згодна іх прызнанню на допыце прызналі вінаватымі, менавіта: Сямёна Нешу, Навума Ваўка — бурмістраў, Івана Гужнішчава, што біў набатам у ратушны звон, Грышку Скарубу і яшчэ пятнаццаць чалавек, а таксама Пятра Васілевіча Палачаніна, які, прыехаўшы ў Віцебск, дапамагаў словам і дзеямі змоўшчыкам, і ягонага сына Васіля, які быў у Віцебску на момант забойства сярод галоўных завадатараў мяцяжу і забойства. Тых жа, што здзейснілі злачынства і пайшлі з места да прыезду камісараў /такіх было 71/, выракалі на страту завочна. Дзе б толькі хто з іх адшуканы не быў, меўся быць пакараны без усялякай літасці, а рухомая і нерухомая іхняя маёмасць у Віцебску і іншых месцах прысуджалася да канфіскацыі на карысць скарбніцы караля.

З-за таго, што бунт пачаўся з сігналу ратушнага і некаторых царкоўных званоў, віцебскаму войту загадана было гэтыя ўсе званы адабраць і аддаць у цэхгаўз, а надалей з дазволу будучага полацкага архібіскупа выліць вялікі звон з надпісам пра ўчыненае злачынства. І аддаць яго да саборнай Прачысценскай царквы, пры якой быў забіты ўладыка. З гэтага часу пры ўсіх іншых цэрквах мець званы без дазволу мітрапаліта Кіеўскага і яго пераемнікаў не дазвалялася. Прачысценскую царкву мяшчане павінны былі прыўкрасна адбудаваць уласным коштам.

Іншыя пакаранні камісары пакінулі на каралеўскі суд.

Як адзначаў мітрапаліт Язэп Руцкі сваім лістом да кардынала Баньдзіні ад 10 лютага 1624 года, «адсечаны галовы двум гродскім саноўнікам і разам з імі васемнаццаці грамадзянам, а маёмасць іхняя канфіскаваная. Каля сотні іншых грамадзянаў, уцёкшых у розныя бакі да прыезду камісараў, вырачаны на страту завочна з канфіскацыяй маёмасці. Скасаваны прывілеі, дадзеныя гэтаму месту каралямі, разбурана ратуша на вачах ува ўсіх, больш смуткаваўшых па гэтым, чымся па адсячэнні галоў сваім суграмадзянам».

Але жыхары места параўнальна нядоўга пакутавалі на страту «рэжыма найбольшага эканамічнага спрыяння». Усяго праз дзесяць гадоў, у 1633 годзе, Уладыслаў IV верне ўсе прывілеі, адабраныя ягоным бацькам за забойства Кунцэвіча.

*«Падчас навалы непрыяцеля, — масквіцяніна, — адзначаў у прывілеі кароль, — на дзяржавы нашыя, жыхары гэтага места ахвяравалі жыццём сваім і неаднаразова нішчачы ворага ратавалі не толькі места, але і межы дзяржавы, прадаставілі гетману Вялікага княства Літоўскага багата палонных і штандартаў. Аб вялікай мужнасці і адвазе віцяблянаў сведчыў і віленскі ваявода, польны гетман Крыштаф Радзівіл. Акрэм таго, сенатары хадайнічалі аб вяртанні і зацвярджэнні правоў і прывілеяў, раней нададзеных. Мы, па прыроднай нашай дабрыні і з падставы хадайніцтва сенатараў і чыноў нашых, памягчаючы суворасць права і пакарання, вяртаем віцяблянам ранейшыя правы, прывілеі і свабоды і гэтакія ім, адмяняючы строгасць камісараў і яго вялікасці караля бацькі нашага, даруем і зацвярджаем на вечныя часы, за выключэннем толькі Магдэбургскага права, якое мы пакідаем да наступнай міласці нашай».*

*Годам раней на варшаўскім сойме 1632 года было пастаноўлена: «У Вялікім княстве Літоўскім павінен быць біскуп Мсціслаўскі, ад неунітаў тамтэйшых абывацеляў такім жа чынам, як Луцкі і Перамысельскі абраны. Гэты біскуп атрымоўвае на каранацыйным сойме прывілей караля і павінен менавацца — біскуп Мсціслаўскі, неуніт, Аршанскі і Магілёўскі. Жыць яму ў Магілёўскім Спаскім манастыры. Прыбыткі ўсе, што мае зараз Антоній Сялява, архібіскуп Полацкі, і якія Віцебскаму і Мсціслаўскаму архібіскупству належаць, павінны застацца пры ім і пасля яго будучым архібіскупам Полацкім уніяцкім».*

Кожнаму, хто не захоча гарнуцца да Уніі, дазвалялася перайсці ў епархію біскупа Грэцкага веравызнання, гэтаксама ж той, хто не жадаў быць у епархіі Грэцкага веравызнання, мог перайсці ў епархію Уніяцкую. Напрыклад, з Мсціслаўскай епархіі ва Уніяцкую Полацкую, а з Полацкай у Мсціслаўскую Невуніцкую епархію.

Неўзабаве на Магілёўскую епіскопію быў абраны Сілівестр Косаў, родам з Віцебскага ваяводства, былы прэфект Кіеўскай акадэміі. У 1635 годзе ён атрымаў ад Уладыслава IV прывілей на біскупства і быў хіратанізаваны мітрапалітам Пётрам Магілам.

У гэтым жа 1635 годзе выдадзеным пасля сойма прывілеем кароль замацоўвае за уніятамі архібіскупствы і манастыры:

*«... Між тым нам прыходзіцца жыць разам з людзьмі не належачымі да вуніі, правы каторых мы стала прызнавалі. Па прычыне гэтага дзеля агульнае добрасці мы пастанавілі і даем гэтае наша пацвярджэнне ў тым, што мы людзям, сутным у вуніі з рымскай царквою, міласціва захоўваем на вечныя часы разам з мітраполіяй і належачымі ёй маёмасцямі архібіскупствы Полацкае, Уладзімірскае, Пінскае, Холмскае, Смаленскае з манастырамі, цэрквамі і належачымі ёй маёмасцямі, каторыя павінны назаўсёды заставацца за уніятамі, а таксама Віленскі Свята-Троіцкі манастыр з брацтвам, з царквою св.Пятніцы і належачымі ім фундацыямі, гэтак жа як і манастыры Гродзенскі, Жыдзічынскі, Магілёўскі, Менскі, Наваградскі, Ануфрыеўскі, Мсціслаўскі, Плыцінскі, Полацкі, Браслаўскі і іншыя, каторыя зараз знаходзяцца ў іхнім валоданні — усе яны павінны быць на вечныя часы за уніятамі. У Віцебску, Полацку і Наваградку неуніяты ніколі не павінны будуць мець аніякай царквы. Замацоўваем гэтае права за нас і за нашых пераемнікаў, што б гэтыя біскупствы, архімандрытствы, ігуменствы нікому іншаму не былі перадавальныя, акрэм базыльянскіх манахаў, каторых будзе прапаноўваць нам і нашым пераемнікам сапраўдны уніяцкі мітрапаліт і ягоныя пераемнікі уніяты».*

Тыкім чынам, стаўленне да праваслаўных у Вялікім княстве пасля забойства Кунцэвіча становіцца ўсё больш насцярожаным. Але нягледзячы на каралеўскі прывілей віцябляне вяршылі верніцкія справы на сваё ўгледжанне, зразумела ж, зноў не без удзелу біскупа Магілёўскага Сілівестра Косава. У красавіку 1636 года архібіскуп Полацкі, Віцебскі і Мсціслаўскі Антоній Сялява скардзіўся ваяводзе полацкаму на земянаў гаспадарскіх ваяводства Віцебскага паноў Юр'я і Івана Пыткаў і на паноў Сямёна і Івана Пышніцкіх, на мяшчанаў і іншых паноў, што яны, з іншаю шляхтай збудавалі былі будку для набажэнства свайго схізмацкага, раскіданую паводле загада паноў камісараў.

Дэталі ўдакладняе наступная скарга Антонія Сялявы на «роках судовых земскіх» мая 1636 года:

*«Яго міласць пан Косаў, будучы неунітам, супраціўна волі караля, парушаючы соймавыя канстытуцыі на варункі бяспекі паміж унітамі і неунітамі, з даўняга часу паміж намі ўсталяваныя, не маючы ніякай патрэбы і найменейшага прыступу да дыяцэзіі /епархіі/ архібіскупа Полацкага, мінуючы ўсялякую слушнасць і прыстойнасць, яўна чынячы свавольства і ўзрушэнне спакою паспалітага і права, з парадаю і дапамогаю некаторых абывацеляў ваяводства Полацкага важыўся публічна трыумфальна, як сам архібіскуп Полацкі і быццам да сваёй уласнай дыяцэзіі ў места каралеўскае Полацак прыехаць мая 13 року цяперашняга 1636».*

Гэткім гвалтоўным наездам пан Косаў многа асобаў з народу шляхецкага і люд паспаліты ў Полацку пабунтаваў ад паслушэнства архібіскупу Полацкаму. За такім узрушэннем і да праліцця крыві, сцеражы Божа, нядоўга, папярэджваў А.Сялява.

Але ж правілы царкоўныя святых айцоў, зважаў далей архібіскуп Полацкі, строга наказваюць: каб адзін другому ў чужой парафіі перашкоды ніводнай не чыніў.

Скардзіўся архібіскуп і каралю, на што той не затрымаўся звярнуцца лістом да Косава:

*«Прэасвяшчэннаму Сілівестру Косаву.*

*Твая міласць, не задавальняючыся правамі, дадзенымі неуніятам, насуперак даўнім пастановам соймавым аб міры паміж уніятамі і неуніятамі, пацверджаных нядаўна адбыўшымся шасцітыднёвым соймам, насуперак даўнім пастановам, загадваючых, каб ніхто ва ўладаннях царкоўных і маёмасцях манастырскіх ні з якой нагоды не рабіў адзін другому ўціскаў і прыгнётаў пад небяспекай за гэта пені ў 10 тысячаў злотых.*

*Твая ж міласць асмеліўся прыехаць у Полацак і Віцебск самаўпраўна і там, насуперак выказанай намі волі, даеш падставы да бунтаў і ўзрушэнняў, дзеля большага поспеху вярбуючы на свой бок знакамітых людзей і абывацеляў полацкіх. Уважаючы такія ўчынкі парушаючымі спакой народны, загадваем прыслухацца нашае волі і не асмельвацца наязжаць у Полацак і Віцебск і бываць там калі-небудзь напотым, каб не прысвойваць правоў, вам не належачых, а адмовіцца ад іх, задавальняючыся законнымі сваімі правамі».*

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, справы уніі рушыліся наперад. Як ужо адзначалася, прывілеем, дадзеным Уладыславам IV пад Смаленскам у 1633 годзе, віцебскім мяшчанам былі павяртаныя ўсе правы, прывілеі і свабоды, якіх яны былі пазбаўлены праз забойства Кунцэвіча.

Прайшло восем год...

*«Па прычыне настойлівых просьбаў места і некаторых саноўнікаў, — адзначаў у прывілеі 1641 г. Уладыслаў IV, — улічваючы, што А. Сялява, мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі, архібіскуп Полацкі, Віцебскі і Мсціслаўскі паведамляе, што мяшчане віцебскія, прыступіўшы добраахвотна да вуніі са святою Рымскай царквою, жадаюць быць разам з жонкамі сваімі, дзецьмі і нашчадкамі пад уладаю і паслушэнствам цяперашняга свайго архібіскупа Віцебскага і наступных за ім, занеслі да нас сваё задайніцтва, каб мы, скасаваўшы даўняе пакаранне, аднавілі і надалі прывілей на Магдэбургскае права.*

*Пасля добраахвотнай уступкі і адрачэння вяльможнага Крыштафа Кішкі, ваяводы віцебскага ад правоў і ўлады яму належачых, вяртаем і канфірмуем прывілей на права Магдэбургскае з той умовай, каб усе асобы віцебскага магістрату былі не іншае веры, як толькі Рымска-каталіцкай альбо Грэка-уніяцкай. У супраціўным выпадку, калі яны ад святой вуніі і ад паслушэнства ўладыку свайму віцебскаму адпадуць, то гэтым самым яны губляюць Магдэбургскае права. Мяшчане ж маюць права карыстацца прывілеем, калі будуць, не выходзячы з-пад улады магістрата, у паслушэнстве ўладыку віцебскаму, сутнаму ў вуніі са св. Рымскай царквою. З дысідэнтаў і дызуніятаў ніхто гэтага Магдэбургскага права прысвойваць не павінен. Магістрат жа мусіць папярэджваць, каб нідзе ў Віцебску дызуніцкай царквы будавана не было».*

Падставы дзеля такога абмежавання правоў дызунітаў, відаць, меліся. Спробы наездаў чарняцоў у Віцебск спынены не былі, нягледзячы на пострах згубы Магдэбургскага права. Мітрапаліт А. Сялява, віцебскі пратапоп Мікалай Брозка, віцебскі намеснік Тамаш Сялява скардзіліся падваяводзе полацкаму Яну Лісоўскаму на Мікалая Гутара і Данілу Булата райцаў, Івана Раманоўскага і Рамана Казла лаўнікаў места Віцебскага і на іншых бурмістраў, радцаў і лаўнікаў, што памянёныя панове самі будучы прыхаванымі схізматыкамі і на ашуканне вуніі святой сабе прывілей на канфірмацыю Магдэбургскага права атрымалі.

Не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, разгледжаныя намі дакументы даюць колькі святла прыгледзецца да жыцця уніі.

Па-першае, выкрываецца антынавуковая спекуляцыя гісторыкаў ад ідэалогіі ў падыходзе да паказу асобы Кунцэвіча. Спекуляцыя менавіта на факце забойства, якая дазваляе навешваць на нябожчыка ўсе грахі і злачынствы, якіх на самай справе не было. Створаны Феафанам і Сагайдачным канфлікт паміж біскупам Кунцэвічам і Сматрыцкім, канфлікт паміж падзеленай з-за гэтага на два лагеры паствай, стаў падавацца як супрацьуніяцкае выступленне. А дзе ў гэтым «паўстанні» распісаная антыфеадальнасць, калі буйнейшыя мясцовыя феадалы, віцебскі магістрат бралі ўдзел у бунце? Ні ў адным з дакументаў не згадана, што Кунцэвіч сілком закрываў і запячатваў цэрквы, аб гвалце з ягонага боку да вернікаў і тым больш аб выкопванні па ягоным загадзе памёршых праваслаўных. Нават мянушка Кунцэвіча — «душахват» дагэтуль спекулюецца на ягоным падабенстве са словам «душагуб»! Толькі назоў душахвата Кунцэвіч атрымаў не за злачынствы і забойствы, а, як падаваў яшчэ «гісторык манархісцкай плыні» А. Сапуноў, за бліскучую місіянерскую дзейнасць, дасканалае красамоўства і майстэрства перакanання.

Асаблівага разгляду і даследавання вымагае ліст канцлера Льва Сапегі да Кунцэвіча, на які часта спасылаюцца, як дакладны і аўтэнтычны дакумент, сведчанне жорсткасцяў і злачынстваў Кунцэвіча. У Сапунова /Витебская старина, Т. I/ ён пададзены ў рускай мове, перакладам з польскай. Зазначана, што на той час арыгінал сапегаўскага ліста знойдзены быў у паперах Кунцэвіча ягоным біёграфам Кульчынскім і ўпершыню надрукаваны ў Specimem ecclesiae Ruthenicae, а ў далейшым у розных выданнях на расейскай і польскай мовах. На жаль, невядома, з якой крыніцы перакладаў Сапуноў і на якой мове напісаны арыгінал. Мяркую, што ідэолаг незалежнасці Вялікага княства Літоўскага мусіў пісаць да Кунцэвіча па-беларуску, той мовай, якой карыстаўся і ўладыка, бо факсіміле подпісу канцлера пададзена старабеларускім кірылічным скорапісам — Леон Сапега.

Засяроджваюць увагу асобныя выразы ў лісце Сапегі:

«... Жалобы, поданные русскими начальникам польским и литовским». Сапега не мог ужыць такія этнонімы ў такім спалучэнні, бо на той час у Княстве значэнне «рускі» і «ліцвін» было тоесным, а падданых Масквы звалі «маскавітамі, «масквіцянамі».

«Ваша уния, ... пресловутая ваша уния» — ці мог азвацца так Сапега, — адзін з бацькоў Уніі, на вынік сваёй задумы?

Сама пабудова ліста надзвычай грувасткая, разглядаецца і аналізуецца кожны тэзіс Кунцэвіча, быццам піша не канцлер, а надзвычай спрактыкаваны палеміст. Верагодней за ўсё Сапуноў рабіў пераклад не з арыгінала ліста Сапегі да Кунцэвіча. На фальсіфікацыю копій гэтага ліста зважаў архібіскуп у пісьме да мітрапаліта Руцкага: «Копіі тых жа лістоў знялі пісары ім збродням даюць, каторыя яны ўсюды па сваіх разсылаюць часам таксама зняўшы, аддрукаваўшы перапісваюць потым прыціснуўшы якую кольвек пячатку аддаюць».

Не выключана, што ліст мадэрнізаваны пазнейшым гісторыкам, у той час, калі этнонім «рускі» стала замацоўваўся за падданымі Маскоўскай дзяржавы.

Дапытлівы чытач заўважыць, што чарнец Сільвестр, які прыязджаў у Віцебск з лістамі Сматрыцкага, у далейшым стане архібіскупам магілёўскай праваслаўнай епархіі Сілівестрам Косавым. Пацвердзіцца і заўвага аб паходжанні Косава з віцебскага ваяводства: у судовых матэрыялах сярод змоўшчыкаў згадваецца віцебскі гродскі пісар Адам Косаў.

Чаму віцебчукі не сталі хадзіць у цэрквы, вернутыя Кунцэвічу, але пабудавалі шопы ў выглядзе цэркваў? Прамога адказу на гэтае пытанне ў дакументах пакуль не знойдзена, але, відаць, такім чынам дакляравалася непрыязнасць часткі віцебчукоў да Кунцэвіча і адданасць Сматрыцкаму. З матэрыялаў суда вынікае датычнасць магістрату і заможнай часткі віцебчукоў да забойства архібіскупа. Матывы гэтага злачынства ў разгледжаных дакументах адшукаць не давялося, як, дарэчы, і каралеўскім камісарам. Пэўна, Кунцэвіч прыносіў значную фінансавую незадаволенасць гарадской вярхушцы Віцебска, што і вырашыла ягоны трагічны лёс.

**Міхась ПАЎЛАЎ**

*г.Віцебск*

Пераклады

***Сагаевата /прыкладна 1752—1830/ — правадыр індзейскага племені сэнэка, што насяляла землі, якія належаць цяпер ЗША. Прамова Сагаеваты, якую мы прапануем вашай увазе, прагучала на сустрэчы з белымі, скліканай у сувязі з планам стварэння хрысціянскае місіі на землях ягонага племені.***

***Аўтар падае пераклад без каментарыяў. І сапраўды, нейкія каментарыі тут залішнія: гістарычныя паралелі — навідавоку.***

САГАЕВАТА

# ПРАМОВА ПРАВАДЫРА ЧЫРВОНАЯ НАКІДКА

Сябра і брат! У тым, што мы сустрэліся сёння, бачная воля Вялікага Духу.. Усё падуладна Яму, і дзеля нашае рады падараваў Ён нам гэтакі пекны дзень. Згарнуўшы накідку, Ён дазваляе зіхоткаму сонцу спрыяць нашай сумоўнасці. Вочы нашыя расплюшчыліся, і мы сталі відушчыя. Вушы нашыя адкрыліся, і мы пачулі як след словы, прамоўленыя табою. За ўсе гэтыя добрасці мы ўдзячныя Вялікаму Духу й толькі Яму.

Брат! Вогнішча нашае рады распаліў ты. Сышліся мы тут гэтым разам па тваёй просьбе. Уважліва слухалі мы ўсё сказанае табою. Ты прасіў нас гаварыць вольна. Гэта дужа цешыць нас: мы спадзяёмся, што ўзняліся перад табою на ўвесь наш рост і зможам выказаць усё набалелае. Усе мы выслухалі тваю прамову і звяртаемся да цябе, як адзін чалавек. Розум наш утварае гэтае адзінства.

Брат! Ты кажаш, што чакаеш адказу на нашыя словы, і спадзяешся пачуць яго да таго, як пакінеш гэтыя мясціны. Справядлівы спадзеў: цяпер ты далёка ад дому свайго, і нам не след затрымліваць цябе. Але спачатку азірнемся і раскажам табе, што распавялі нам нашыя бацькі і як разумеем мы словы белых людзей.

Брат! Слухай, што мы табе скажам. Быў колісь час, калі нашыя продкі валодалі гэтым вялікім востравам[1]. Валоданні іхнія распасціраліся ад усходу да захаду сонца. Вялікі Дух стварыў усё гэта дзеля шчаснае долі індзейцаў. Ён стварыў мядзведзя, бізона, аленя ды іншых звяроў нам на спажыванне. Ён стварыў мядзведзя й ляся, і шкуры іхнія сталі нам вопраткай. Ён рассяліў птушак па ўсёй нашай краіне і навучыў нас, як здабываць іх. Усё гэта стварыў Ён дзеля сваіх чырванаскурых дзяцей, з любові да іх. І калі спаміж намі ўсчыналіся спрэчкі з-за паляўнічых абшараў, дык зазвычай мы знаходзілі згоду не праліваючы вялікае крыві.

Але насталі для нас чорныя дні. Вашыя продкі пераплылі Вялікую Ваду й высадзіліся на нашым востраве. Было іх няшмат. Знайшлі яны тут сяброў, а не ворагаў. Яны распавялі нам, што кінулі сваю краіну з-за страху перад жорсткімі людзьмі і прыплылі сюды, каб быць вольнымі ў веры сваёй. Яны папрасілі сабе толькі трохі зямлі. Мы пашкадавалі іх, не адмовілі ў іхняй просьбе, і яны занялі месца спаміж намі. Мы прынеслі ім кукурузы й алею. Яны ж далі нам атруты[2].

Нарэшце, брат, белыя людзі ўведалі, што ў нас за краіна. Вестка разнеслася, і яшчэ больш белых людзей прыйшло да нас. Але мы не адчувалі страху перад імі і сустрэлі іх, як сяброў. Яны называлі нас братамі, мы паверылі ў шчырасць іхніх слоў і падаравалі ім багата нашай зямлі. А праз нейкі час іх дужа паболела. Яны запатрабавалі яшчэ зямлі. Яны запатрабавалі ўсю нашую краіну. Вочы нашыя расплюшчыліся, розум апанавала трывога. Пачаліся войны. Індзейцаў наймалі йсці на індзейцаў, і шмат нашых людзей загінула. Белыя завезлі да нас і процьму яшчэ мацнейшай атруты — сілай сваёю яна вынішчыла тысячы нашых братоў.

Брат! Некалі нашыя валоданні былі бясконцыя, а вашыя — вельмі малыя. Цяпер вы сталі вялікім народам, а ў нас ледзь хапае месца паслаць сабе коўдру. Вы захапілі нашую краіну, але не задаволіліся гэтым. Цяпер вы хочаце навязаць нам і сваю веру.

Брат! Слухай далей. Ты кажаш, што ты пасланы наставіць нас адносна таго, як шанаваць Вялікага Духа адпаведна з Ягонымі задумамі, і што, калі мы не прымем веры, якой вучаць белыя людзі, дык у будучыні спазнаем няшчасці. Ты кажаш, нібыта вы несяце праўду, а мы збіліся з сапраўднае сцяжыны. Але адкуль нам ведаць, дзе праўда? Мы ведаем, што вера вашая выкладзена ў кнізе. То калі яна прызначана для нас гэтаксама, як і для вас, чаму ж тады Вялікі Дух не паслаў яе нам? І не толькі нам. Чаму ж не падараваў Ён нашым продкам веданне аб гэтае кнізе і сродкі для яе дакладнага разумення? Мы чуем адно тое, што распавядаеце пра яе вы. Як нам уведаць, у што верыць? Бо ж белыя людзі столькі разоў падманвалі нас!

Брат! Мы не можам зразумець гэтага. Нам казалі, быццам вера была падараваная вашым дзядам і перадавалася ад бацькі да сына. У нас таксама ёсць вера, падараваная нашым продкам, і яна перайшла да нас, іхніх дзяцей. Праз яе мы звяртаемся да Вялікага Духа. Яна вучыць нас быць удзячнымі за ўсе добрасціласкі, атрыманыя намі, вучыць любіць адно аднаго й быць з'яднанымі. Мы аніколі не сварымся з-за веры.

Брат! Усіх нас стварыў Вялікі Дух. Але Ён стварыў спаміж сваімі белымі й чырванаскурымі дзецьмі багата якія адрозненні. Ён падараваў нам розны колер твару й розныя звычаі. Вас Ён надзяліў многімі ўменнямі, а нам вочы на іх не раскрыў — і мы гэта бачым. І калі Ён стварыў такія вялікія адрозненні спаміж намі ва ўсім астатнім, дык чаму ж тады не вырашыць, што Ён падараваў нам іншую веру, адпаведна з нашым разуменнем? Вялікі Дух ва ўсім нясе праўду. Ён ведае, як зрабіць лепей для сваіх дзяцей — і мы шчасныя.

Брат! Мы не жадаем знішчыць вашую веру ці адняць яе ў вас. Мы толькі хочам застацца пры сваёй.

Брат! Ты кажаш, што прыйшоў не дзеля таго, каб адабраць у нас зямлю й яе багацці, але дзеля таго, каб прынесці ў наш розум прасвяду. Я не буду доўга расказваць табе пра тое, што бываў на вашых сходах і бачыў, як збіралі там плату з тых, хто прыйшоў. Не ведаю, на што йдуць гэтыя грошы — мажліва, на патрэбы вашага святара, — але калі мы прымем твой лад думак, дык — хто ведае? — ці не запатрабуеш тады ты грошай і ў нас?

Брат! Нам кажуць, быццам ты прапаведаваў сярод белых людзей, што жывуць у не дужа далёкіх ад нас мясцінах. Мы выдатна ведаем нашых суседзяў і хочам пачакаць крыху й паглядзець, што дала ім твая казань. Калі мы ўбачым, што яна прывяла іх да дабрыні й зрабіла сумленнымі й не такімі хлуслівымі ў стасунках з індзейцамі, якімі былі многія іхнія папярэднікі, тады мы задумаемся над тым, што ты сказаў.

Брат! Цяпер ты выслухаў наш адказ на сваю прамову, і гэта ўсё, што мы можам сказаць. На развітанне мы падыдзем да цябе й возьмемся за рукі ў спадзеве на тое, што Вялікі Дух захавае цябе ў дарозе й верне жывым-здаровым да тваіх сяброў.

1805

**Пераклаў з англійскай мовы**
**Алесь АСТАШОНАК**

---

[1] *Паўночнаамерыканскім кантынентам.*
[2] *Алкагольных напояў.*







*Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У клубе пленум камуністаў, і ля пад'езда «Волгі» новыя, выходзяць «босы» ганарыста і ў «тачкі» грузяцца службовыя. Яно бывала і раней мянялі веру за каней, а гэныя за тую пашу і нашым моляцца і вашым.

●

Бюракратаў у нас што блох, бюракрат у нас што бог. «Вас многа, а я адзін», — кажа гардэробшчык Усцін. Тэатр пачынаецца з гардэроба, ды ці з гардэроба хвароба.

●

Праца не церпіць авацый. Угледзеў за героямі працы цень эксплуатацыі?

●

З правілаў аддання чэсці. Прыклаўшы руку да казырка, не круці далонню — начальства можа няправільна зразумець твой жэст. І не рабі вялікіх вачэй, калі камандзір у адказ круціць галавою — начальству часта замінаюць цесныя каўнерыкі.

●

Спыніце стрэчны вецер, і шмат у якіх фігур на п'едэсталах знікне ўсё гераічнае — не будзе з чым змагацца.

●

Пенсіянеры на варце закону дамагліся свайго — шыльда «З сабакамі забаронена» перакрыла ўваход. Хай помсцяць істоты шкодныя, не псіная гэта справа, шыльда «Пенсіянерам уваход свабодны» зіхціць на сабачай выставе.

●

Згодна з лініяй генеральнаю, будуючы сацыялізм, гадавалі мы нацыянальнае — нацыянальны нігілізм.

●

Што ёсць у нас еўрапаманы, у тым не бачу я заганы. Не местачкоўцы мы, і час, ён еўрапейскі і ў нас. А вось наскрозь правінцыяльнае — ісці ў свет без нацыянальнага.

●

З Ларошфуко: ты прышлае заціснуў у кулак, маўляў, паспееца, хаця пакуль не выйшла, а тое, што ты чыніш проста так, хіба не робіцца тваім мінулым прышлым?

●

Мартыралог. Нішто не забыта: забіты дзесяткі мільёнаў. Ніхто не забыты? А подлых забойцаў імёны — мусім катаў і карнікаў знаць, хай гучаць ім праклёны.


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 9.09.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12